# Зьмест.



---

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ.

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопіс.



№ 12 Сьнежань 1925 г. № 12

## Беларускай Дзяржаўнай с.-г. Акадэміі імя Кастрычнікавае Рэволюцыі—прывітаньне!

## Кузьня с.-г. культуры на Беларусі.

28 лістапада г. г. ў Горках Урад БССР падпісаў пастанову аб адчыненьні Беларускай Дзяржаўнай с-г. Акадэміі імя Кастрычнікавае Рэволюцыі.

Значэньне гэтай пастановы, вядома, будзе ацэнена ня сёньня, але цяпер можна ўжо сьмела сказаць, што ў разьвіцьці нашай сельскай гаспадаркі гэта гістарычны крок.

Да Рэволюцыі Беларусь толькі, як на сьмех, лічылася земляробскай краінай, бо тут, седзячы на зямлі, больш чым дзе наш селянін пух ад голаду: ён меў цераспалосіцу, малазямельле, неасушанае балота, быў неаплатны даўжнік царскіх падаткаў і г. д. Цяпер-жа Савецкая ўлада стварае пэўныя ўмовы для разьвіцьця вясковай гаспадаркі.

Нават пры нашай яшчэ беднасьці Савецкі ўрад траціць значныя грашовыя сродкі на адбудову вышэйшай с-г. школы. У Акадэміі цяпер згуртована ўсё тэхнічнае і навуковае багацьце двух ранейшых школ — Менскага і Горацкага с.-г. Інстытуту. Але і надалей прыдзецца яшчэ траціць шмат сродкаў, каб замяніць старое абсталяваньне Акадэміі новым на ўзровень сучаснай заходня-эуропэйскай тэхнікі.

Шмат сродкаў патрэбна і на ўтрыманьне студэнцтва Акадэміі. Часы 1920—22 году, калі студэнты фактычна галадалі, трацілі сваё здароўе, хварэлі і, урэшце, выходзілі са школы бяз поўнай спэцыяльнай падрыхтоўкі, трэба адкінуць зусім. Пролетарскае студэнцтва, як найхутчэй, павінна і напэўна будзе мець чалавечыя ўмовы працы.

Трацячы агромністыя сродкі на с-г. Акадэмію, Дзяржава чакае адтуль вялікую армію *новых спэцыялістых*, якія выйдуць з мазолістай вёскі, але з ненавісьцю да цемры і бядоты, пойдуць у с-г. школу і там узброяць і загартуюць сябе с.-г. ведамі, каб стала і пэўна будаваць „Новую Вёску“ на соцыялістычных падставах.

А такіх спэцыялістых Беларусі трэба шмат. Аб гэтым можа сьведчыць хяця-б тое, што да 1930 г. толькі Наркамзем мае на мэце павялічыць лік аграномаў да 1200 чалавек замест 375, якія лічацца на 1 кастрычніка 1925 г. *) .

Тое-ж гаворыць нам і наша праца па земляўпарадкаваньню, таксама асушцы балот і скарыстаньню іх пад добрыя сенажаці, выганы, засеў с.-г. расьлін і г. д.

Вось чаму Савецкая ўлада надае такое вялікае значэньне *стварэньню с.-г. Акадэміі і яе працы.*

*) Шмат аграномаў патрэбна будзе коопэрацыі і мо' непасрэдна с-с.



Тав. А. Адамовіч[1]) аб гэтым піша так: *„Бяз тэхнікі, без кваліфікацыі немагчымаісьці наперад. Навука ў справе організацыі Дзяржавы і жыцьця працоўных мас па шляху да соцыялізму іграе вялікую ролю*[2])“

Тав. Зьм. Прышчэпаў[3]) кажа так: *„Акадэмія на самай справе павінна стаць асяродзьдзем агрономічнай думкі і досьледаў для сотняў і тысяч сялянскіх гаспадарак. Цяпер шматпольле для сялян стала неабходнасьцю, як і земляўпарадкаваньне“.*

Проф. Доўнар-Запольскі кажа, што *ўмовы жыцьця нашай эпохі патрабуюць больш шпаркага разьвіцьця гаспадаркі*[4]).

Аршанскі акруговы Комітэт КПБ у дзень адчыненьня Акадэміі піша: *„Акадэмія павінна навучыць селяніна-бедака пры сучасных умовах падняць сваю гаспадарку“*[5]).

Можна было-б яшчэ і вельмі шмат дадаць тых заданьняў, якія ставіць Акадэміі наша сельская гаспадарка і Савецкае будаўніцтва.

Але скажам яшчэ толькі адно, што, апрача падрыхтоўкі чырвоных спэцыялістых, ад с-г. Акадэміі будзе вымагацца *навуковая* і *дасьледчая праца.* Яна павінна будзе распачаць шырокае высьледаваньне і вывучэньне нашай краіны, яе багацьцяў і гаспадарчых мажлівасьцяй.

Напэўна, у бліжэйшы час кожны практычны крок Дзяржавы, с.-г. коопэрацыі, саўхозу і нават паасобна гаспадара, таксама агронома, лясьнічага і г. д. будзе грунтавацца толькі на папярэднім вывучэньні прыроды краіны, — яе клімату, глебы, дзікіх і культурных расьлін, рознай жывёлы, прыродных багацьцяў і г. д.

Толькі тая практычная праца будзе зразумела і выгадна, якая пабудавана на папярэднім досьледзе. У гэтым можа ўпэўніць нас распачатая дасьледчая праца б. Менскага і Горацкага Інстытутаў. Так, напр., цяпер мы ведаем больш-менш свае глебы, знаем пра адклады ў Беларусі *крэйды, добрай гліны, фосфарытаў, якія прыгодны на ўгнаеньне, ведаем пра мінэральныя крыніцы для пабудовы курортаў і г. д.*

Вывучаць свой край нам трэба ў першую чаргу, бо мінулае і тут мае толькі плямы.

Кожны досьлед нашай краіны ўсё больш і больш будзе нішчыць цемру вёскі і недарэчную веру селяніна ў забабоны і „Чорную кнігу“ знахара. Культурны селянін будзе ведаць законы прыроды, сьвядома падыходзіць да іх і карыстацца багацьцямі зямлі.

Вось чаму патрэбны навуковыя асяродкі і цесная сувязь іх з практычным жыцьцём, з працай селяніна, агронома, дасьледчыка.

Няхай-жа *с-г. Акадэмія будзе кузьняю с.-г. культуры*, як для Савецкай Беларусі, так і для адарванай Заходняй яе часткі.

**Сьц. Тупяневіч.**

---

[1]) Старшыня Саўнаркому.
[2]) „Савецкая Беларусь“ № 270
[3]) Народны Камісар Земляробства.
[4]) „Сав. Бел.“ № 270.
[5]) „Комуністычны Шлях“ № 162.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Сельская гаспадарка ў Расонскім раёне.

(*Полаччына*).

Уся плошча раёну складае 139 тыс. 900 дзесяцін. Паміж рознымі с.-г. ўгодзьдзямі зямлі знаходзіцца вельмі мала. Так, у раёне налічваецца *пахаці* 31.600 дзес., *сенажаці* 12500 дзес., *пад гародамі і сялібамі* 2.000 дзес. Усяго ў раёне двароў, або гаспадарак 6636. На аднаго ядака *сенажаці* і *пахаці* прыпадае 1,1 дзес., а аднэй *пахаці* 0,7 дзес. Як бачым, насельніцтва ў нас жыве шчыльна (ў паўтары разы больш у параўнаньні з Францыяй).

*Земляўпарадкаваньне.* Да Рэволюцыі прайшло земляўпарадкаваньне ў 1.200 гаспадарках, а пасьля Рэволюцыі—ў 590. Усяго земляўпарадкаваньне ахваціла 1790 гаспадарак. З старымі формамі застаецца яшчэ 4.672 гаспадаркі.

Разьмеркаваньне палявых расьлін на 100 дзес. пахаці выяўляе такі малюнак:

| | Плошча. | Ураджай. | | Плошча. | Ураджай. |
|---|---|---|---|---|---|
| жыта | 42 | 33 пуд. | гароху | 5,3 | 38 пуд. |
| аўса | 31 | 39 „ | лёну | 4,1 | 14 п. валакна. 9 п. семя. |
| ячменю | 13 | 42 „ | выкі. | 2,1 | 180 п. сена |
| бульбы | 8,7 | 427 „ | канюшыны | 3,3 | 250 п. сена. |

Усе лічбы ўраджаю ўзяты з абсьледаваньня 30 гаспадарак раёну ў 1924 годзе. Той-жа досьлед паказвае, што адна гаспадарка пры трохпольлі дае толькі 28 руб. Гаспадарка-ж на шматпольлі дае 65 р., а адна культурная гаспадарка сел. Ліпіна дае нават 112 руб. на дзес.*).

Вось чаму галоўнай задачай зараз дзеля раёну зьяўляецца пераход на шматпольле і засеў траў. Поля, на якім зараз можна сеяць канюшыну, ёсьць каля 16.000 дзес. Плошча з пескавой зямлі, дзе абавязкова патрэбен засеў лубіну, складае каля 8.000 дзес.

Каліб-усё пескавое поле раёну разам з пустуючым папарам заняць лубінам на ўгнаеньне, то мы мелі-б каля 5 мільёнаў пудоў зялёнай масы**).

Усяго-ж у гаспадарках раёну налічваецца гною $5^1/_2$ міл. пудоў. Як бачым, лубін для нашага раёну зьяўляецца значным фактарам у павышэньні ўраджаяў.

---

*) У гаспадарцы 9-ці польны севазварот.

**) На пескавой зямлі агропункту лубін дае да 3000 пуд. зялёнай масы.

А між тым у 1925 г. было пасеяна канюшыны—300 пуд., лубіну —120 п., сэрадэлі—20 п.

*Жывёлагадоўля* ў раёне мала даходна. Адна карова ў сярэднім дае каля 40 вёдзер малака ў год. Кошт-жа корму для яе складае 22 руб. 75 кап.

У бліжэйшы час патрэбны значныя сродкі на куплю насеньня канюшыны, цімафейкі, лубіну і сэрадэлі, каб распачаць грунтоўную працу па пераводу гаспадарак на шматпольле.

**Палторан**
(Член ЦВК)

## Аб сельскай гаспадарцы Нямеччыны.

Сёлета ўвосень мне давялося быць у Нямеччыне. А, як вядома, Нямеччына славіцца культурнасьцю сваёй гаспадаркі. За кароткі час *поўнага вывучэньня* сельскай гаспадаркі Нямеччыны я не зрабіў, але агульнае ўражаньне склалася даволі поўнае. Аб гэтым уражаньні і будзе гутарка далей*).

Раней, чым папасьці ў Нямеччыну (Усходнія Прусы), прышлося ехаць цераз Латвію і Літву. За граніцаю Саюзу (станцыя Себеж) пачынаецца зямля Латвійскай дзяржавы. Насельніцтва пераважна латышы. Можна было заўважыць, што латышы гаспадараць ня дрэнна; на полі бачыш сеяныя травы (канюшына), няма вузкіх палосак, пасецца добрая скаціна і г. д. Уся будоўля хутароў адменна ад нашай (няма саломенных і паўзьцзіраных ветрам стрэх).

Далей цягнік ішоў цераз землі Літвы. Тут ужо малюнак іншы і больш падобны да нашага. Зноў замільгацелі вузкія палоскі сялян, межы з сорнымі травамі, забалочаныя выганы, маленькія каровы і г. д. У перамешку з хутарамі сустракаліся і вёскі з шэраю абгніўшаю саломаю стрэх. А зямля ў літоўцаў ня горшая, а мо' й лепшая, чым у латышоў. Праз суткі язды цераз Латвію і Літву пачалося поле Усходніх Прусаў.

Цяпер некалькі слоў аб *клімаце і глебах* Ўсходніх Прусаў. Клімат падобны да клімату ў Беларусі, толькі больш ападкаў (дажджу і сьнегу), бо гэта краіна бліжэй да Балтыцкага мора. Глебы Ўсходніх Прусаў таксама падобны да нашых: сустракаюцца лёгкія пескавыя, падзолістыя і тарфяныя глебы і шчыльныя суглінкі. Наогул, немцы, як і беларусы, сваім полем хваліцца ня могуць: без угнаеньняў і там шмат не зародзіць. Нізкіх месц, дзе лёгка ўтвараецца балота, у Нямеччыне таксама шмат. Але немцы ўмеюць вясьці барацьбу з балотамі: яны асушаюць іх і заводзяць там добрую сенажаць і выган. Добрыя сенажаці і выганы,—гэта першае, што кожны адразу заўважыць у Нямеччыне. „Дзікіх", імшарных балот, якіх шмат у Беларусі, там ня ўбачыш.

Асушку балот часьцей над усё немцы праводзяць дрэнажом (ганчарныя трубы). У сярэднім па Нямеччыне ў 1925 г. на 100 дзес. пахаці прыпадала каля 40 дзес. сенажаці і выгану. З аднае дзесяціны палепшанай сенажаці ўкос сена даходзіць да 250-300 пуд. Адна дзесяціна выгану пры доглядзе за ім і ўгнаеньні можа пракарміць 4 галавы дарослай скаціны на працягу 6-7 летніх мес.

*) Тут будзе апісана толькі палявая гаспадарка.

Палепшаньня ў палявой гаспадарцы немцы дасягаюць тымі-ж способамі, якія агрономы раяць сялянам і ў нас. Гэтыя спосабы прыблізна такія.

1) *Заснаваньне правільнага чаргаваньня пасеваў на полі, куды ўваходзілі-бы травы і корнеплоды,* гэта знача заснаваньне шматпольных пладазьменных севазваротаў.

2) *Палепшаньне вырабу поля.*

3) *Палепшаньне насеннага матэр'ялу с.-г. расьлін.*

4) *Ужываньне мінэральных угнаеньняу, лубіну і сэрадэлі апрача гною.*

5) *Пільная ахова с.-г. расьлін ад розных шкоднікаў.*

Ад трохпалёўкі немцы адмовіліся ўжо год 100 таму назад, а ў той час і ім ня соладка жылося. Цяпер-жа ў іх толькі шматпольле. Севазвароты розныя, але большасьць іх прыстасована к жывёлаводнаму ўхілу гаспадаркі, здабываньню корму. Корняплоды, як буракі і бручка, а таксама выка—аўсяная мешаніна, канюшына, сэрадэля і інш. травы (люцэрна*, райграс), знаходзяцца ў нямецкіх севазваротах.

Засеў бульбы асабліва пашыраны ў памешчыцкіх гаспадарках. Пасевы лубіну, як на ўгнаеньне, так і на насеньне, у нямецкіх севазваротах сустракаюцца часта; лубін на ўгнаеньне там сеюць часьцей, як пажніўную расьліну (пасьля жніва жыта). Насеньне лубіну немцы ўмеюць лішаць атрутнасьці і ўжываюць яго ў корм скаціне. Пустога, незанятага папару ў немцаў амаль няма—так немцы вядуць барацьбу з малазямельлем!

Выраб поля ў немцаў добры, дзякуючы багацьцю нямецкіх гаспадарак на розныя с.-г. машыны і прылады. Коні ў немцаў таксама добрыя; у апошнія гады іх работа на полі (асабліва ў памешчыкаў) замяняецца трактарамі. Галоўную воранку немцы робяць больш глыбокай, чым у нас; у сярэднім іх ворыва мае 16-18 см. (4-4½ вярш.) замест нашых 8-9 см. (2-2½ вярш.). Плугі сялянскіх гаспадарак часьцей параконныя, з адным корпусам на калёсах. *Лушчэньне*, або мелкая папярэдняя воранка, лічыцца амаль абавязковай.

Звычайнай машынай ў немцаў зьяўляецца лапкавы, пружыновы або талеркавы культыватар (ім пульхняць поле, вядуць барацьбу з дзікімі травамі і г. д.). У Нямеччыне зараз налічваюць да 50 сыстэм трактароў. Асабліва цікавы сярод іх новыя машыны, так званыя „Фрэзеры“. Яны ў рабоце не падобны да плуга; фрэзеры сваімі зубамі і крукамі, якія прыладжаны да барабана машыны, ускапваюць і крышаць пласты зямлі, як краты. *Фрэзераваньне замест воранкі плугам ужо пашыраецца на практыцы.*

Звычайны засеў у немцаў—радковы. Засеў чыстым, сартаваным і пратраўленым ад грыбных хвароб насеньнем зьяўляецца правілам. Да 300 культурных гаспадарак Нямеччыны заняты вывядзеньнем і вырашчваньнем сартовага насеньня, якое падыходзіць да глебы і клімату якой-небудзь аднэй краіны. Лік сартоў кожнай расьліны дасягае некалькіх дзесяткаў, асабліва шмат сартоў бульбы. Немцы лічаць, што ўраджаі ад сартовага насеньня павялічваюцца прыкладам на 20 проц. (гэты процант супадае з досьледамі дасьледчых станцый СССР).

Вялікае значэньне для гаспадаркі Нямеччыны маюць мінэральныя ўгнаеньні. Іх ужываюць у значным ліку. Напрыклад, у 1923 годзе

*) Люцэрна хмелевая.

было высеяна ў Нямеччыне салетры каля 153 мільёнаў пудоў, супэрфосфату 44,4 міл. пуд. і 120 мільёнаў пудоў калійнае солі.

Адна культурная сялянская гаспадарка, якую мы аглядалі, пры васьмёхпалёвым севазвароце мінэральныя ўгнаеньні сеяла на 5 зьменах і ў сярэднім па 20 пуд. на дзес. Ураджаі ў гэтай гаспадарцы былі такія: *жыта да 160 пуд., авёс да 180 пуд., бульба да 1200 пуд., корняплоды да 4000 пуд., сена канюшыны да 350 пуд. з дзесяціны.* Сярэднія-ж ураджаі Намеччыны, вядома, меншыя і яны асабліва падупалі ў час вайны і пасьля вайны.

Паказваю гэта ў лічбах на дзесяціну.

| НАЗВА РАСЬЛІНЫ | Сярэдняя за 1908-12 г. | 1913 г. | Сярэдняе за 1923-24 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 110 | 120 | 87 |
| Авёс . . . . | 120 | 132 | 106 |
| Бульба . . . . | 835 | 990 | 775 |

Асабліва на зьніжэньне ўраджаю Нямеччыны мае ўплыў нястача фосфарных угнаеньняў (цяпер яго высяваецца ў тры разы менш у параўнаньні з даваенным часам). Вось гэта кароткія рысы аб палявой гаспадарцы Нямеччыны. Вядома, розьніца паміж сялянскай гаспадаркай і гаспадаркай памешчыкаў там ёсьць і агромністая. Буйныя гаспадаркі памешчыкаў шырэй карыстаюцца машынамі, угнаеньнем, маюць лепшае сартовае насеньне і г. д.

Зямельныя абшары гаспадарак часьцей над усё бываюць ад 5—20 дзес. Такія гаспадаркі займаюць каля 33 проц. зямельных абшараў. Гэтакі-ж абшар займаюць гаспадаркі з плошчаю ад 20—80 дзес. зямлі.

Форма карыстаньня пераважна хутарская. Часта хутары свае сялібы будуюць на сумежных землях і. такім чынам, утвараюць як-бы невялікія пасёлкі ў 10—15 двароў.

А. Міхайлаў.

---

# Вопыт замены азоту салетры азотам зялёнай масы лубіну.

Азот—самая важная пажыўная матэрыя для с.-г. расьлін, але яе не хапае ў нашых падзолістых глебах Беларусі. Недастача гэта папаўняецца ўнясеньнем у глебу салетры, гною, торфу, кампосту і зялёнага ўгнаеньня. Усе гэтыя ўгнаеньні абходзяцца гаспадару даволі дорага. Па колькасьці-ж чыстага азоту гэтыя ўгнаеньні—розныя.

Каб абходзіцца з імі ашчэдна і не класьці лішняга, маюцца нормы, якія паказваюць, колькі трэба ўзяць таго ці іншага ўгнаеньня, каб мець неабходную колькасьць азоту. Большасьць гэтых норм заснована на даных хэмічнага аналізу, што часта бывае ня зусім точна і не супадае з данымі ўраджаю. Тлумачыцца гэта тым, што ўплыў на расьліны азоту аднаго ўгнаеньня—лепшы, другога—горшы. Азоту ў якім-небудзь угнаеньні можа быць і шмат, а расьліна ўсё-ж такі мае недастачу і наадварот, азоту можа быць мала, а вынікі на ўраджай будуць добрыя.

Паказваем вынікі досьледу па замене азоту салетры на азот зялёнае масы лубіну.

Вопыт гэты ставіўся ў гаршкох з чыстым прамытым рачным пяском. Пастаноўка гэтага вопыту складалася з наступнага: у кожную пасудзіну клалі па 5 кілёгр. бясплоднага пяску і па разьліку на найлепшы ўраджай усіх неабходных пажыўных соляй *(азоту 1/2 гр., фосфару 1/4 гр. і калі 3/4 гр.).*

У некалькі пасудзін замест азоту салетры клалі азот, які знаходзіцца ў зялёным лубіне. На 1/2 гр. азоту трэба класьці прыблізна 84 гр. лубіну. Каб вынайці больш точна, колькі патрэбна браць салетры на замену 84 гр. зялёнай масы лубіну, у некалькіх пасудзінах была паложана салетра з колькасьцю азоту ў 1/2 гр., 1/4 гр. і нават 1/8 гр. Для тэй-жа мэты таксама ў вопыце ёсьць і павялічаныя нормы зялёнай лубінавай масы (84,168 і 252 гр).

Схэма вопыту такая:

| Пасудзіны | Угнаеньне | Тое самае скарочана |
|---|---|---|
| 1-2 | Азоту 1/2 гр., фосфару 1/4 гр. і калі 3/4 гр. | N+P+K |
| 3-4 | „ 1/4 „ 1/4 „ 3/4 | N+P+K |
| 5-6 | „ 1/8 „ 1/4 „ 3/4 | N+P+K |
| 7-8 | Замест азоту салетры 84 гр. лубін. масы | Лубін +P+K |
| 9-10 | „ 168 „ „ | Лубін 2+P+K |
| 11-12 | „ 252 „ „ | Лубін 3+P+K |
| 13-14 | Без салей; 168 гр. лубінавае масы | Лубін 2 |

Усе мінэральныя ўгнаеньні клаліся ў выглядзе парашкоў і перамешваліся з усёй колькасьцю пяску. Лубінавая маса ўзята ў пачатку красаваньня лубіну без карэньня. Перад унясеньнем яе рэзалі нажом. Ва ўсе пасудзіны 2-га чэрвеня быў пасеяны аднасортны авёс па 10 зярнят у кожную. Вопыт гэты быў захаваны ад ветру, птушак і дажджу. Палівалі расьліны перагнанай вадой. Праз 80 дзён авёс пасьпеў і быў сабраны. Сухі ўраджай саломы і зярна ў грамах паказаны ў табліцы.

| Пасудзіна | Угнаеньне | Сярэдняя вага ўсей масы з дзьвёх пасудзін у гр. | У %% па масе | Вага зярна ў гр. | У %% па зярну | Памылка вопыту |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-2 | N+P+K | 25,9 | 100 | 11,62 | 100 | 6 % |
| 3-4 | N+P+K | 18,65 | 72 | 8,60 | 74 | „ |
| 5-6 | N+P+K | 8,77 | 34 | 3,56 | 30 | „ |
| 7-8 | Лубін +P+K | 15,05 | 58 | 4,90 | 42 | „ |
| 9-10 | Лубін 2 +P+K | 26,00 | 100 | 11,12 | 95 | „ |
| 11-12 | Лубін 3 +P+K | 13,10 | 50 | 4,82 | 41 | „ |
| 13-14 | Лубін 2 | 21,15 | 81 | 9,37 | 80 | „ |

Паказаныя лічбы даюць адказ расьліны на наша пaданьне. Тут мы бачым, што пры ўнясеньні ўсіх неабходных салей PNK атрымалі масы 25,9 грам. Калі азоту зьменшым на палову, то ўраджай маем толькі 18,65 гр. і пры зьмяншэньні яшчэ на палову будзем мець толькі 8,77 гр. Паглядзім цяпер, да якой з гэтых норм падойдзе ўраджай, дзе ўнесена намі 84 гр. зялёнай масы лубіну. Бачым, што ўраджай гэты толькі 15,05 гр. ня гледзячы на тое, што хэмічны аналіз 84 гр. лубіну паказваў у ім азоту 1/2 гр.

Пры ўдвоенай норме лубінавай масы (168 гр.) мы мелі такі самы ўраджай, які і ў першых пасудзінах—26 гр. Знача, *гэта норма (168 гр.) замяняе 1/2 гр. азоту салетры*. Далей-жа пры павялічэньні лубінавай масы (пры ўнясеньні трайной нормы) ураджай быў вельмі нізкі (13 гр.). Пры гэтым бачым, што нават лепшым было ўнясеньне двайной нормы лубінавай масы без дабавачных салей (Р і К), бо ўраджай быў 21,15 гр. Ураджай і аднаго зярна дае тыя-ж самыя вынікі.

Знача, вынікі гэтага вопыту паказваюць нам, каб замяніць 1/2 гр. азоту салетры на азот зялёнай масы лубіну, неабходна палажыць двайную колькасьць апошняй (168 гр.).

Такое зьявішча зусім магчыма і ў палявой практыцы. Калі на дзесяціну кладуць чыстага азоту ў салетры 2 пуды, то каб замяніць азот салетры лубінавай масай, трэба палажыць яе столькі пудоў, дзе будзе знаходзіцца ня 2 пуды чыстага азота, ў два разы больш.

**А. Савельлеў.**

(Горкі, с. г. Акадэмія).

---

# Уплыў рэзаньня бульбы на ўраджай.

У нашых сялянскіх гаспадарках бывае, што не стае бульбы на пасеў. Каб заняць большую плошчу поля, ёсьць даўно вядомы спосаб—рэзаньне бульбы.

Больш пашырана рэзаньне бульбы ўдоўж, але бывае, што разрэз гэты робяць крыху наўскос. Рэжуць бульбіны і папярок, а высеваць можна толькі верхнія палавінкі ці верхнія і ніжнія разам. Ураджай ад рэзанай па рознаму бульбы будзе не аднальковы. Горацкая с-г. дасьледчая станцыя вывучала гэта пытаньне. Пасяўным матэр'ялам былі 1) *цэлыя бульбіны*, 2) *верхнія палавінкі* ад папярэчнай рэзкі 3) *ніжнія палавінкі* ад тэй-жа рэзкі і 4) *палавінкі ад падоўжнай рэзкі*. Трэба адзначыць, што пры папярэчным рэзаньні разрэз рабіўся не пасярэдзіне, а прыблізна зрэзвалася верхняя трэць бульбін. Рабілася гэта дзеля таго, каб на ніжняй палавінцы заставалася больш вочак.

Ураджай бульбы быў такі:

| | | |
|---|---|---|
| Цэлыя бульбіны . . . . . . . . . . | 1904 | пуд. з дзес. |
| Верхн. палав. пры папярэчн. рэзаньні . . | 1732 | „ „ „ |
| Ніжнія палав. „ „ „ . . | 1280 | „ „ „ |
| Палавінкі рэзаныя ўдоўж . . . . . | 1239 | „ „ „ |

Як бачым, найбольшы ўраджай даюць цэлыя бульбіны, а найменшы—палавінкі рэзаныя ўдоўж.

Рознае рэзаньне робіць ня толькі ўплыў на ураджай бульбы, але і на якасьць ураджаю. Напрыклад, выхад буйной, сярэдняй і дробнай бульбы вельмі мяняецца ў залежнасьці ад спосабу рэзаньня.

Ураджай бульбы пры кожным рэзаньні ў пудох і ў проц. па велічыні бульбін на дзесяціну буздзе такі:

| ЯКОЕ НАСЕНЬНЯ | БУЙНАЯ | | СЯРЭДНЯЯ | | ДРОБНАЯ | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У пудох на 1 дзес. | % | У пудох на 1 дзес. | % | У пудах на 1 дзес. | % |
| 1. Цэлыя бульбіны . . | 284 | 14.9 | 1348 | 71.3 | 272 | 13.8 |
| 2. Верхнія палавінкі . | 485 | 29.1 | 1064 | 61.4 | 164 | 9.5 |
| 3. Ніжнія палавінкі . | 164 | 12.8 | 880 | 68.7 | 236 | 18.5 |
| 4. Палав., рэзан. ўдоўж | 216 | 17.4 | 859 | 69.3 | 164 | 11.3 |

Як відаць з прыведзенае табліцы, найбольшы выхад буйной бульбы бывае пры пасеве верхнімі палавінкамі—29,1 проц., што складае 485 пуд. на 1 дзес. Выхад-жа буйной бульбы пры пасеве цэлымі бульбінамі бывае менш—14,9 проц., што складае 284 пуд. на 1 дзес.

Пасеў верхнімі палавінкамі бульбы, праўда, зьменшыў велічыню агульнага ўраджаю (на 172 пуд.) калі ад ураджаю цэлай бульбы адняць злішкі пасяўнога матэр'ялу, затрачанага пры пасеве (цэлая бульба—192 пуд., верхнія палавінкі 74 пуд., што складае 128 пуд.), то прыбаўка будзе малой; буйной-жа бульбы пры пасеве верхнімі палавінкамі было больш.

Павялічэньне буйной бульбы і зьмяншэньне дробнай у сучасным выпадку можна растлумачыць так: пры пасеве цэлымі бульбінамі павялічваецца лік сьцяблоў у кусьце. Па нашым даным у сярэднім на 1 куст ад пасеву цэлай бульбай прыходзілася каля 5 сьцяблоў у той час, як пры пасеве верхнімі палавінкамі, прыходзілася толькі 3 сьцябла. Калі сьцяблоў больш, то і лік бульбы павялічваецца. У сярэднім на 1 куст пасеву цэлымі бульбінамі прыходзілася 15 бульбін, пры пасеве-ж верхнімі палавінкамі 10 бульбін. Знача, на роўных плошчах вырастае розны лік бульбін. Зразумела, што пры меншым іх ліку рост будзе лепшы, вальнейшы. Акрамя таго, сьцяблы ніжніх вочак адстаюць у росьце, даюць больш дробныя бульбіны і тым самым павялічваюць проц. дробнай бульбы.

Пры пасеве толькі ніжнімі палавінкамі мы, безумоўна, зьніжаем агульны ўраджай яе, бо сіла гэтых вочак у росьце значна слабейшая, чым у верхніх.

З усяго сказанага мы бачым, што лепш усяго сеяць цэлай бульбай, або верхнімі палавінкамі яе. Пры чым, калі ў нас ёсьць толькі буйная бульба, то, пасеяўшы верхнімі палавінкамі яе на полі сярэдняй пладароднасьці, мы можам мець лепшыя вынікі (асабліва па якасьці і ураджаю).

Пры пасеве палавінкамі рэзанымі ўдоўж і ніжнімі палавінкамі ўраджай зьніжаецца.

Пры пасеве верхнімі палавінкамі ў гаспадарцы трэба скарыстаць ніжнія, бо пры вялікім запасе можа быць загніваньне іх у вясеньні час.

Гаспадар яшчэ з восеньні павінен падумаць, ці хопіць у гаспадарцы пасяўнога матэр'ялу.

У тым выпадку, калі матэр'ялу вясной не хапае, можна раіць высяваць верхнія і ніжнія палавінкі разам, бо ад такога мешанага пасеву мы ўсё-ж такі будзем мець больш высокі ўраджай, чым ад пасеву толькі палавінкамі, якія рэзаны ўдоўж.

Г. Рэго.

(Горкі, с-г. Акадэмія)

# Корняплоды ў замен дарагога корму.

Практыка паказала, што адзін пуд аўса па спажыўнасьці можа замяняць паасобку 12 пуд. турнэпса, 10 пуд. буракоў, 8 пуд. морквы, $2^{1}/_{2}$ пуд. сена канюшыны, 5 пуд. лугавога сена.

Значыць, калі гаспадар сабраў 200 пуд. буракоў, то ён як-бы набыў 20 пуд. аўса ці 100 пуд. сена.

Можна даць для характарыстыкі корняплодаў такую таблічку:

| Назва корняплодаў | Сярэдні ўраджай іх з дзесяц. ў пуд. | Колькім пудам па спажыўнасьці раўняецца ўраджай корняплодаў з аднае дзесяціны | |
|---|---|---|---|
| | | Сена канюшыны ў пуд. | Аўса ў пуд. |
| Турнэпс . . . | 3.500 | 730 | 290 |
| Бручка . . . | 2.200 | 550 | 200 |
| Буракі . . . | 2.000 | 500 | 200 |
| Морква . . . | 1.600 | 500 | 200 |

Калі прыняць ураджай сена канюшыны 300 пуд., а аўса 100 пуд. з дзесяціны, дык дзесяціна корняплодаў дае разы ў два больш пажыўнай кармовай масы, чым дзесяціна канюшыны ці аўса.

Але паглядзім, колькі каштуе культура корняплодаў, патрабуючых шмат працы, значнага ўгнаеньня і клопату па перавозцы і перахоўваньню ўраджаю. Можа тут убачым і перашкоду, якая ўстрымоўвае селяніна ад разьвядзеньня корняплодаў.

Практыка аднаго селяніна, пасеяўшага на 240 кв. сажн. турнэпс, паказвае, што адзін пуд турнэпсу абходзіцца гаспадарцы $2^{2}/_{4}$ кап. Зразумела, што такі сабекошт бывае розным у залежнасьці ад глебы, ураджаю, уменьня выращчваць корняплоды і г. д.

Звычайна сабекошт корняплодаў хістаецца між такімі лічбамі:

1 пуд морквы абходзіцца . . . . 2—15 кап.
1 „ буракоў і бручкі . . . . 6—12 „
1 „ турнэпсу. . . . . . 4— 8 „

Значыць, можна лічыць, што корняплоды зьяўляюцца самымі таннымі кармамі і гаспадаром выгадна рабіць замену часткі аўса, высевак і нават сена і саломы на корняплоды.

У гарадох, дзе прывазное сена і салома каштуе дорага, трымацелі малочных кароў купляюць лепш па высокіх цэнах корняплоды для малочных кароў, ці нават самі іх разводзяць і знаходзяць у гэтым выгаду.

Выгаду гэту заўсёды трэба ўперад падлічыць, дзеля чаго робіцца параўнаньне спажыўнасьці корняплодаў і іншых кармоў, хаця-б па кармовых адзінках, каб даведацца, у якім корме кармовая адзінка каштуе таней. Напрыклад, пуд сена каштуе 40 кап. і дае 10 кармовых адзінак; значыць, адна кармовая адзінка абышлася ў 4 кап. Пуд саломы прыблізна з 8 кармовых адзінак каштуе, напрыклад, 16 кап.; значыць, кожная адзінка каштуе 2 кап. Пуд высевак каштуе 90 кап. і мае 30 кармовых адзінак; значыць, адна кармовая адзінка ў высеўках каштуе 3 кап. Калі-ж у гэты час пуд корняплодаў каштуе 10 кап., дык тут кармовая адзінка абходзіцца 2½—2 кап., бо 1 пуд. турнэпсу мае 4-5 кармовых адзінак.

Апрача гэтай экономічнай выгады, замяняць корняплодамі частку корму вельмі пажадана і па іншых прычынах.

Корняплоды вельмі ахвотна паядае ўсякая жывёла; корняплоды палепшваюць страваваньне і ахвоту да яды.

Асабліва малочная скаціна любіць гэты смачны, сакавіты корм; малочныя каровы з корняплодамі паядаюць ахвотна ўсякае сена і салому.

Корняплоды павялічваюць і ўдоі малака. Буракі і морква праз гэта так і завуцца малакагоннымі кармамі.

Практыка кармленьня кароў корняплодамі паказала, што ад прыбаўкі да штодзенных кармоў каля пуду корняплодаў павышаюцца ўдоі на 8—10 фун. малака ў дзень, што ў месяц дасьць каля 8 пуд. лішняга малака. Значыць, корняплоды павялічаць малочнасьць нашае скаціны.

Корняплоды—гэта як-бы сочная трава, як-бы паша ўзімку.

Адной карове на зіму патрэбна 180 пуд. якіх, небудзь корняплодаў (буракоў ці турнэпсу), а гэту колькасьць можна сабраць з 150 кв. сажн.; або на 16 кароў патрэбна 1 дзес. корняплодаў. Калі за ўсе 240 стойлавых дзён даваць карове па 30 фун. корняплодаў, можна кожны дзень экономіць каля 7 фунт. сена, а за зіму да 40 пуд. На полі корняплоды таксама патрэбны ў пладазьмене, бо яны трымаюць зямлю пяльхнай і чыстай ад сарнякоў. Вось якая цікавая рэч корняплоды.

Пры кармленьні скаціны корняплодамі трэба ў пачатку прызвычайваць да іх жывёлу. Корняплоды павінны быць чыстымі, іх трэба заўсёды абмываць ад зямлі. Каб ня траціцца на дарагую корнярэзку, можна скармліваць корняплоды цэлымі. Даюцца корняплоды сырымі; сьвіням-жа лепш варыць. Лепш перахоўваецца морква, горш—турнэпс, як больш вадзяністы.

*Зацікаўцеся, чытачы, корняплодамі.* Пагутарце з тымі сялянамі, якія ўжо мелі корняплоды, атрымалі за іх прэміі на выстаўках.

*Корняплоды—лепшы сродак у барацьбе з бяскорміцай і безадаходнасьцю сялянскай гаспадаркі.*

П. Ластоўскі.

---

# Як з саломы зрабіць добры корм.

У сялянскіх гаспадарках самым пашыраным кормам для кароў зьяўляецца яравая салома. Яе даюць сечкаю, або трушанкаю (з сенам). Кожны гаспадар добра ведае, што яравая салома ёсьць лепшы корм чым жытняя, але горшая, чым сена. Каб параўнаць іх кармовую вартасьць, мы даём табліцу спажыўных матэрый у сухім корме ў %.

| | Белкавіны. | Дравясіны. | Крухмалу. | Жыроў. |
|---|---|---|---|---|
| Сена . . . . . . | 9,7 | 26,3 | 4,4 | 2,5 |
| Яравая салома . . | 4,0 | 40,0 | 35,0 | 2,0 |
| Азімая салома . . | 3,0 | 44,0 | 33,0 | 1,0 |

З гэтае табліцы бачым, што салома мае шмат дравясіны, якая кепска паддаецца страваваньню, і мала белкавіны і жыроў. Каб зрабіць салому добрым кормам, трэба, каб яна лепш пераварвалася жывёлаю. Для лепшага яе скарыстаньня ёсьць два способы папярэдняй падрыхтоўкі саломы ў корм—*мэханічны* і *хэмічны*.

З першым спосабам большая частка сялян знаёма. Ён зьяўляецца ў тым, што салому рэжуць на сечку. Сечка павінна быць даўжынёю ў 5-6 см. Больш дробная сечка дрэнна пераварваецца і забруджвае жывот.

Хэмічны спосаб падрыхтаваньня саломы можа быць *цёплым* і *халодным*. Да сялянскіх гаспадарак падыходзіць больш *халодны спосаб.*

Над тым, як зрабіць з саломы добры корм, шмат працавалі вучоныя Нямеччыны. У часы імпэрыялістычнае вайны ў іх нават на фабрыках выраблялся, так званы моцны з саломы корм. Але скора для фабрык не хапіла апалу і немцы сталі вышукваць новыя мэтоды прыгатаваньня з саломы моцнага корму на холадзе або пры звычайнай тэмпэратуры.

*Халодны спосаб* быў вынайдзен нямецкім вучоным Бэкманам каля Бэрліну. Бэкманаўскі спосаб заключаецца ў наступным: бяруць скрыню, праз якую не працякае вада ($1^1/_2$ мэт. даўжыні, 1 мэт. шырыні і 60 санм. вышыні. Насыпаюць сечку і мочаць яе ў $1^1/_2$% растворы едкага натру (прадаецца ў кожнай аптэцы па 35-40 кап. кілёгр.). Пры чым бяруць на 100 кілёгр. сечкі 12 кілёгр. едкага натру, які раствараюць у 800 літрах вады, або на 50 кілёгр. сечкі бяруць 6 кілёгр. едкага натру і 400 літраў вады. Пасьля таго, як сечка размокла, кладуць на яе дошкі з цяжарам, каб сечка была пад вадою. Праз 10-12 гадзін ваду зьліваюць у другую скрыню, у якой таксама зноў мочаць сухую сечку. Гэтым саставам можна карыстацца на працягу 2-3 тыдняў. Толькі час ад часу трэба зьліваць муць, якая асядае на дне. Так пратрыманую сечку трэба добра прамыць у чыстай вадзе, каб ня было на ёй едкага натру.

Што часткі едкага натру не засталіся на сечцы, можна праканацца лакмусавай паперкай (за 5 кап. у аптэцы яе даюць некалькі стужак). Калі апусьціць гэту паперку ў сырую сечку, у якой яшчэ

застаўся едкі натр, то ружовая паперка зробіцца сіняю. Гэта паказвае, што сечку яшчэ трэба мыць, пакуль паперка не застанецца ў сваім ружовым колеру.

У Нямеччыне рабілася шмат досьледаў над жывёлай, якой давалі так падгатаваную сечку. Вынікі былі адны: што салома, намочаная ў растворы едкага натру, спажывалася на 72,8%, а запараная сечка толькі на 45%. Такім чынам, даючы сечку па Бэкманаўскаму спосабу, можна даваць яе на 1/3 менш, чым звычайна даюць сяляне. Салома пры гэтым спосабе захоўвае прыемны пах і каровы яе ядуць многа ахватней, чым запараную. Таксама салома захоўвае свой ранейшы выгляд сечкі.

Раючы гэты спосаб скарыстаньня саломы нашаму селяніну, мы спадзяёмся, што гаспадары, якія яго паспрабуюць, будуць мець ад гэтага карысьць і пашыраць яго сярод сваіх аднавяскоўцаў.

Пры нястачы корму (саломы) адмаўляцца ад гэтага спосабу ня варта.

**Ів. Атабекянц.**

---

# Аб рахунковасьці ў сялянскай гаспадарцы.

Мэтай гаспадара зьяўляецца атрыманьне, як можна больш, розных продуктаў, каб потым частку іх спажыць, а другую прадаць і купіць усё неабходнае для сям'і, гаспадаркі, аплаты падаткаў і г. д. Прадаюцца лішкі продуктаў альбо продукты спэцыяльна для продажу прызначаныя.

У абодвых выпадках гаспадар павінен добра ведаць, які продукт можа даць яму больш прыбытку, а чым больш гаспадар прадае і купляе, тым лепей ён павінен ведаць сабекошт продукту. Напрыклад, гаспадар прадаваў жыта, бульбу, лён, яйкі, масла і г. д. Ён помніць, колькі за што атрымаў, але зусім няўпэўнены, які з прададзеных продуктаў даў большы прыбытак, бо гаспадару самому каштавала і жыта, і лён, і масла (ён траціў і працу, і грошы і г. д.). Каб ведаць, які продукт даў больш прыбытку для гэтага патрэбна было адкінуць з вылучанае сумы ўсе расходы на прададзеныя продукты. Але расходаў бывае шмат і яны дробныя, усіх не запомніш; іх патрэбна сваячасна запісваць. Яшчэ прыклад: у гаспадарцы ёсьць розная жывёла—коні, каровы, авечкі, сьвіньні, птушкі. Гэта жывёла патрабуе корму, працы па догляду, будынку і г. д. і дае гаспадарцы розныя продукты (адна карова дае малака больш, другая менш; авечкі разам далі столькі-то шэрсьці і г. д.). А што было выгадней трымаць гаспадару, якая жывёла дае большы ці меншы прыбытак, гэта сказаць гаспадару вельмі цяжка. Тут патрэбна было ацаніць усе атрыманыя ад жывёлы продукты і адкінуць з атрыманае сумы ўсе расходы на жывёлу. Але гаспадар расходаў ня можа помніць, тым больш, што падлічэньне прыбытку павінна зрабіць за доўгі час. Такім чынам мы бачым, што і тут патрэбна сваячасна весьці запіс.

Правільны і сваячасны запіс усіх продуктаў, якія дае гаспадарка, і ацэнка іх у грашох, а таксама падлік усіх расходаў і прыбыткаў за год, завецца рахунковасьцю. Рахунковасьць выразна паказвае, якая

галіна гаспадаркі больш выгодна перад другой і дае магчымасьць гаспадару зьмены ў гаспадарцы, каб яна была больш прыбытковай. Таксама рахунковасьць дае магчымасьць і агроному высьветліць асобныя адзнакі сялянскай гаспадаркі і паможа яму ў працы. Дзеля таго, каб правільна паставіць рахунковасьць з мэтай атрыманьня пэўных вынікаў, трэба весьці некалькі асобных запісаў у асобных сшытках і ў канцы году падводзіць рахунак усім запісам.

Пачнем разгляд запісаў па галіне *палявoдзтва* куды будуць уваходзіць усе палявыя расьліны, а таксама і гародніна. Тут трэба завесьці два сшыткі: адзін для учоту ўраджаяў і працы, а другі для запісу прыбытку і расходу продуктаў палявoдзтва.

Першы сшытак будзе мець такі выгляд:

| Назва палос, кавалкаў г. д. | Чым засеяна і якая плошча. | Колькі і якога дадзена гною. | Колькі патр. дзён. працы. | | Колькі пасеяна пуд. | Колькі атрымана. | Колькі намалочана пуд. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Людзкіх. | Конскіх. | | | Зярна. | Саломы п. | Мяк. пуд. |
| Ніва Забалоцьце. | Жыта $^1/_2$ дзес. | Гною 30 воз. (600 п.) і штуч. ўгнаен. 8 пуд. | 25 (з іх 10 жаноч.) | 6 | 5 | $12^1/_2$ коп. | 25 | 30 | $2^1/_2$ |
| Наддачы „вузенькія“. | Бульбы чвэрць дзес. | Ня клалі | 14 (з іх 4 (жаноч.) | 10 | 20 | — | 230 | — | — |

Другі сшытак: Прыбытак і расход продуктаў палявoдзтва.

| Назва продуктаў. | Колькі атрымана пуд. | Колькі куплена, калі і па якой цане. | Куды зрасходавана. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Спажыта сям'ёй. | Прадана, калі і па якой цане. | Пазычана. | На корм жывёле, якой і колькі. |
| Жыта. . . | 70 | — | 43 | 13 п. у лістападзе па 1 р. 5 к. | 5 | Змолата сьвіням 3 п., птушкам зярном $^1/_2$ пуд. |
| Бульба . . | 230 | — | 30 | 80 п. у лістападзе па 30 кап. | — | — |

Так вядзецца запіс у абодвых сшытках на працягу ўсяго году. У іх запісваецца па такому прыкладу ўсе продукты расьлін. У канцы году трэба падагульніць усё, але аб гэтым пагутарым у другі раз, калі пакажам прыклад запісу продуктаў жывёлагадоўлі.

**У. Ш.**

# САДОУНІЦТВА

## Праца ў садзе і ў пладовай школцы ўвосень.

Каб мець ад свайго саду добрую карысьць, а ня толькі адзін цянёк ўлетку, гаспадар павінен ня спушчаць вачэй з свайго саду. За догляд сад адплоціць гаспадару добра, без ашуканства. Калі малады сад не даглядзець з першых год, то праз некалькі год сад можа дайсьці і да таго, што ніхто недарадзіць.

У гэтым артыкуле растлумачым, якія працы трэба рабіць восеньню ў сваім садзе.

Падыходзячы да асеньняе працы ў нашых садох, перш за ўсё неабходна паклапаціцца аб старannaй уборцы апаўшага сухога лісту, а гэтак-жа пладоў і гальля. Засохшае гальлё на дрэвах патрэбна старанна абрэзаць, усе засохшыя і згніўшыя плады на дрэвах і ягады на кустох таксама неабходна абарваць. Ва ўсіх іх хаваюцца шкоднікі і таму ўсё гэта трэба сабраць і спаліць.

Пасьля старannaй уборкі астачы ад ураджаю, глебу паміж дрэвамі трэба ўзараць. Пульхненьне глебы нішчыць траву і розных шкодных кузурак. Трэба прыбраць і падпоркі, абрэзаць абламанае гальлё і зараз-жа абмазаць тарпатынай. Тарпатыну лепш зрабіць самому. Можна гэта зрабіць так.

Трэба ўзяць дзьве часткі белай смалы-жывіцы, адну частку сьвінога сала і адну частку жоўтага воску. Усё гэта распусьціць у якой-небудзь пасудзіне, мешаніну гатаваць, пакуль яна не пачне кіпець. Гатуючы, трэба ўвесь час мяшаць. Калі-ж закіпіць, зьняць з агню і даць астыць.

Для замазкі вялікіх ран, дупла або гнілога месца, добра раіць іншую замазку. Праз густое рэшата прасеяць гліну (без пяску) і зьмяшаць яе з кароўім калам у роўных частках. Затым мешаніну месяць, каб добра перамяшаць і, пакуль яна ня высахла, замазваюць.

Толькі перш, чым замазваць, трэба ачысьціць раны ці дупло да жывога месца. Калі ёсьць на ранах вогнік, таксама трэба зрэзаць да жывога і потым замазваць.

*Абарона маладых дрэўцаў ад марозаў*, мышэй і зайцаў будзе складацца з абвязкі ствала і кароны. Гэта ў большасьці мае мэту зьберагчы маладыя штамбікі ад шкоднага прыгрэву іх сонцам у сакавіку і красавіку, а таксама і ў лютым месяцах.

Лепшым матэр'ялам для абвязкі ў нас будуць *камыт*, *яловыя лапкі або цэлыя яловыя сукі*. Там, дзе іх няма, можна *абвязваць сад саломай*, але ў ёй часта заводзяцца мышы і таму салому трэба намазваць дзёгцем. Лапкамі перш ствол абстаўляецца. Далей лапкі ста-

вяцца камлямі ўверх так, каб яны тарчалі ў бакі, пасьля перавяслам па лапкам ствол абвязваецца ў некалькіх месцах (ня меней трох). Лапкі шчыльна прылягуць каля ствала. Калі дрэва абвязваецца бяз лапак, то лепей з мятай саломы накруціць доўгіх перавяслаў і абкруціць імі ствол ад зямлі да сукоў і таўсьцейшыя сукі. Таксама добра абкручваць ствол перавяслами, але зьнізу на які аршын абставіць лапкамі, каб не залезьлі ў салому мышы. Абкручваньне перавясламі, калі яно добра зроблена, лепш абараняе дрэва ад марозу, чым лапкі. Як выпадзе першы добры сьнег, трэба каля дрэўцаў утаптаць яго. Гэта добра тым, што мышы не падкапаюцца.

Раіцца ў працягу 6—8 год восеньню асыпаць маладыя дрэўцы на 25—30 см. зямлёю, але вясною зноў разгортваць.

Баючыся ветру ўвосень і зімою, трэба ў маладых дрэўцаў старанна замацаваць калкі і перавязаць лазою. Добра яшчэ абмазваць дрэўцы растворам крэйды ў зьбіраным малаку для засьцярогі іх ад прыпёку. Але ні ў якім разе не абмазваць вапнай, што можна рабіць толькі ў старых садох.

У школцы, як і ў садзе, першай чарговай працай будзе зьнішчэньне травы, потым асыпаньне прышчэпленых улетку дзічак з паслабленай, але ня зьнятай абвязкай.

Зараз некалькі слоў аб шкодніках саду і спосабах барацьбы з імі ўвосень.

*Супроць даўганосіка* трэба ачышчаць старую патрэскаўшуюся кару і абмазваць дрэўцы вапнаю з сінім каменем. Абмазваньне ніжняй часткі ствалоў вапнаю з сінім каменем таксама зьяўляецца добрым спосабам барацьбы с *зімуючымі вусенямі пладажоркі*.



а) Гняздо баярышніцы в) Пярсьцёнкавы шоўкапрад.

*Гнёзды златагускі* і *баярышніцы* (мал. а) можна зьнімаць рукамі ці садовым сякатарам (мал. 3) і паліць. Разам з гэтым адцінаюць і канцы таго гальля, на якім знаходзяцца яйкі *пярсьцёнкавага шоўкапрада* (мал. в) і іх таксама зьнішчаюць на агні.

**Агроном А. Андрусеўская.**

(Горкі с.-г. Акадэмія).

---

# Яшчэ аб беларускім сорце капусты Мароза.

На артыкул Я. Мароза „Капусная кіла і барацьба з ёю“*) лічу патрэбным падагульніць свае назіраньні над гэтым сортам.

5 фунтаў насеньня гэтай капусты, якія я купіў у аўтара названага артыкулу, былі разьмеркаваны цераз агрономаў па ўсім раёнам Барысаўскае акругі. Таксама гэты сорт быў пасаджаны і на гародзе АКРЗА і ў пладовай школцы сяла Глівень.

*) „Плуг“ № 10—11.

Назіраньні над ростам гэтай капусты былі такія: першы пэрыод (чэрвень месяц) спрыяў росту капусты (былі частыя дажджы і хмурная пагода). Капуста расла вельмі добра (можна сказаць не па дням, а па гадзінам) і цягнула да сябе ўвагу кожнага селяніна. Сяляне часта казалі: „Які гэта сорт і адкуль ён выпісаны“.

Але якое дрэннае ўражаньне зьявілася ў першы сонечны дзень. Гэта найлепшая капуста пачала вянуць і апускаць лісьця (верная адзнака зьяўленьня капуснай кілы на яе карэньнях). Вырываньне з зямлі падазронных расьлін толькі ўпэўнівала ў гэтым. У пладовай школцы прыходзілася ўжо шукаць ня хворых, а здаровых расьлін капусты, бо яна была хворай амаль на 100 проц. Толькі невялічкая плошча з усяго вучастку мела зусім здаровую капусту. Такое-ж зьявішча *(зьяўленьне кілы на капусьце Мароза).* можна было назіраць і на некаторых сялянскіх гародах. Дзіўна, што другія сарты капусты *(браўншвэйская, мясцовая і сабураўка)*, якія былі пасаджаны разам з капустай Мароза, захварэлі на кілу значна менш.

Але на тых гародах, дзе капуста была здаровай, гэты сорт даў вельмі добры ўраджай. Часамі ён дасягаў 4000 пуд. і больш на дзес.

Характарызую гэты сорт капусты. Выведзены ён Я. Марозам больш 20 год таму назад на хутары Фатынь. Дзед Мароз *(вядомы цяпер шмат дзе ў Беларусі)* шляхам шматгадовага адбору лепшых экзэмпляраў атрымаў гэты сорт. Ён дамагаўся ад свайго будучага новага сорту капусты а) *высокай ураджайнасьці.* б) *кароткай і тонкай качарыжкі,* в) *белага колеру цьвярдога качана* і *добрага смаку.* Калі такі сорт Язэпу Марозу ўдалося вывесьці, то ўсе пералічаныя адзнакі насеньнем высадак перадаваліся новым ураджаям капусты.

*Форма качана амаль зусім круглая.* Пры разрэзе качан мае вышыню 4,8 вярш. і шырыню 4,9 вярш.; даўжыня качарыжкі ў качане 3-4 вярш. а ад качана да зямлі $1^1/_2$ вярш. Вага такога качана $10^1/_2$ фунт. У некаторых выпадках вага дасягае 30 фун. і больш. Качан вельмі цьвярды, колер зусім белы, па смаку вельмі добры, нават калі і спрабаваць сырую капусту. Павярхоўныя лісьця сьветла-зялёнага колеру, сярэдняй велічыні.

Па ўсім пералічаным адзнакам сорт капусты Мароза трэба лічыць лепшым за *сабураўку, пышкінскую,* і *браўншвэйскую.* З недахопаў сорта капусты Мароза трэба назваць яе *слабую трываласьць супроць хваробы капуснай кілы*, а гэтак-жа і тое, што ён зьяўляючыся раньнім сортам, часта пад восень мае загніваючыя ніжнія лісты. Але гэта зьявішча, па словам Я. Мароза, назіралася толькі ў гэтым годзе, калі было дажджлівае лета.

Наогул-жа, гэты сорт капусты заслугоўвае вельмі значнай увагі, а таксама неабходнасьці і далейшага над ім назіраньня. Пакуль-жа што дзед Я. Мароз зусім дарма гневаецца, што за яго працу над *сортам беларускай капусты яму далі „мэдаль з гнілой рэпы“*.

**Агроном Л. Роўда.**

Барысаў.

# Супроць кілы пакуль што няма трывалых сартоў капусты.

Беларускі сорт капусты Я. Мароза аказаўся мала трывалы супроць капуснай кілы. Можна было-б лічыць гэты сорт і дрэнным, калі-б мы мелі другія сарты капусты, трывалыя супроць гэтай хваробы. Але ў тым і бяда, што такіх сартоў няма. Пакуль што сартаводам не ўдалося вывесьці трывалы сорт капусты, хаця досьледаў было шмат і ў розных краінах. Гальстэд (Амэрыка) кажа, што зусім трывалай капусты няма. Кун (Амэрыка) тры гады вывучаў трываласьць капусты, рэпы, рэдзькі і таксама робіць вынік, што трывалыя супроць кілы капусныя расьліны амаль ня сеюцца. У яго досьледах капуста мела лік здаровых толькі 5,2 проц., а праверана было да 1000 расьлін.



Капусная кіла на рэпе. (Натур. вел).

Па некаторым назіраньням сорт „сабураўка" зьяўляецца быццам больш трывалым, але ў вопытах П. Д. Кляменава*) загінула ўся капуста і сорту „сабураўка".

Вось чаму ня гледзячы на тое, што прашло ўжо каля 50 год, як прычына гэтай хваробы капусты (кілы) вынайдзена М. Варонiным, а няма той краіны, дзе-б ня гінулі капусныя расьліны ад гэтай хваробы.

М. Варонін паказвае, што ў яго час капусная кіла была пашырана ў Ангельшчыне, Бельгіі, Францыі, Нямеччыне, Гішпаніі.

У Амэрыцы ад гэтай хваробы і цяпер асабліва гіне радыска, капуста з цьветам, у Эўропе рэпа, у Шотляндыі нават кідалі садзіць капусту.

У Расіі ў 1869 г. пад Пецярбургам загінула палова ўсёй капусты (на 300 тыс. руб.). Пад Ленінградам і цяпер гэта хвароба звычайнае зьявішча. Таксама яна пашырана па ўсёй паўночнай нячорназёмнай частцы СССР.

У Гораднянскай губ. капусная кіла асабліва „выкасіла" капусту ў 1910 годзе, бо там штогод сяляне садзяць капусту на адным і тым-жа месцы, а мер барацьбы ня ведаюць.

*) Маскоўская губ. 1912 г.

Ня менш яна пашырана і ў нас, у БССР. Сяляне і тут ня ведаюць, як весьці з ёю барацьбу, а толькі звальваюць віну то на поле, то на „дрэнны сорт расады“. Адным словам, можна сказаць, што капусная кіла і цяпер яшчэ вельмі пашырана. У Маскоўскай губ, яна губіць ураджай на 80 проц. У лепшым выпадку на 30 проц.

Вось чаму мо‘ ніводная грыбная хвароба расьлін не вывучалася такім значным шэрагам вучоных, як капусная кіла*).

Большасьць вучоных вышуквалі спосабы і сродкі барацьбы з кілою, але барацьба вельмі цяжка, бо гароднікі ці гаспадары-сяляне ня лічацца з самымі простымі правіламі і, наадварот, самі разносяць заразу з расадаю, зямлёю і г. д.



Капусная кіла на капусьце. (Па М. Вароніну).

Зараз я хачу азнаёміць гаспадароў толькі з жыцьцём грыбка (прычына хваробы ў капусных расьлін), каб умела весьці з ім барацьбу тымі спосабамі, якія раяць лепшыя практыкі і дасьледчыкі.

Хвароба пашыраецца так: калі згніваюць у зямлі захварэўшыя карэньні капусты, рэпы ці інш., то ад іх застаюцца тысячы і мільёны дробных зароднікаў кілы**).

У зямлі яны могуць ляжаць адзін, два і некалькі год. Вадою ад сьнегу ці дажджу зароднікі могуць нават пераносіцца ў другое месца гароду. Лепш падабаецца грыбку капуснай кілы нізкая і сырая зямля гароду (каля сенажаці ці балота) з сьвежым гноем. Наадварот, капуста менш хварэе там, дзе поле гароду ня мае блізка грунтовых вод, добра выраблена, з мінэральнымі ўгнаеньнямі, угноена попелам ці вапнаю.

Калі на тым месцы, дзе ў зямлі засталася зараза кілы ад мінулага году, будзе пасаджана капуста, то на яе нападае грыбок (асабліва, калі пасеена расада, бо маладая капуста вельмі чула да хваробы).

*) У СССР М. Варонін, С. Навашчын, А. Бандарцаў, А. Ячэўскі, Н. Каттэрфельд, А. Наумаў, Г. Дарогін, П. Кляймёнаў, М. Троіцкі і інш.

**) Споры па М. Вароніну і цысты па С. Навашыну.




Зароднікі кілы ў зямлі прымаюць выгляд маленькага камочку жывой матэрыі, якая і пранікае ў маладыя карэньчыкі капуснай расады ці капусты.

Як толькі гэта паўзучая матэрыя грыбка *(амёба)* зьяўляецца ў тканцы капуснага карэньчыка, яна пачынае жыць за кошт матэрый расьліны. Пры гэтым матэрыя грыбка (*амёбоід)* павялічваецца, падзяляецца на новыя часткі, якія праходзяць у сумежныя тканкі маладога карэньчыка капусты.

Жыцьцё *матэрыі грыбка* (*плязмодыя па Вароніну*) ў карэньчыках капусты для яе ўсё-ж такі вельмі хваравітае зьявішча. Карэньні капусты пачынаюць непамерна разрастацца, на іх зьяўляюцца наросты, гузы ад арэха і да кулака велічыні (гл. мал. рэпы). Усе сокі, якія здабываюць карэньні з зямлі, ідуць на прырост наростаў і новае ўтварэньне матэрыі грыбка, а качан капусты ці корняплод рэпы галадае і застаецца ў адной меры.

К восені, а то й канцу лета разросшаяся матэрыя грыбка (кіла) *як-бы высьпавае* і утварае ўжо *новыя зароднікі*, якім трэба высеецца ў зямлю.

На сырой зямлі ці пры дажджлівым леце ўсе хворыя карэньні капусты і наросты ад кілы згніваюць, і зароднікі грыбка застаюцца ў зямлі. Калі-ж наросты не пасьпелі згніць, то сабраўшы і спаліўшы іх з качарыжкамі мы амаль у поўнай меры вядзем рузумную барацьбу з кілою*).

Пры раньнім заражэньні капусты (напрыклад расады) наросты заўсёды згніваюць яшчэ ў зямлі разам з карэньнямі. Такая капуста спыняе свой рост, днём на сонцы вяне і выяўляе хваробу.

Часта здараецца і так, што (пры асыпаньні капусты) вышэй хворых карэньняў вырастаюць новыя і капуста яшчэ можа даць сякі-такі ўраджай. Асыпаньне ў сухое лета дае горшыя вынікі.

Здараецца, што можна зьбіраць сярэдні ўраджай качаноў капусты і пры ўгнаеньні гароду мінэральнымі парашкамі. Пры гэтым на карэньнях капусты бывае кіла, але напалову вырастае і качан.

**С. Тупяневіч.**

*) Аб розных спосабах барацьбы з кілою пагутарым у другі раз.

# Паштовая скрынка.

**І. Ц.** „Агропрапаганда ў вёсцы“ і „Мэліорацыя ў Мазыршчыне“, на жаль, спазьніліся ў № 12. Пойдуць у наступным.

**Б. Бабіцкаму.** „Досьледы з кармленьнем кароў“ пойдуць у наступным нумары.

**Агроному І. Белакурскаму.** „Вучот у сялянскай гаспадарцы“ скарыстаем. Пішэце таксама аб сваёй працы ў раёне.

**Саўхозам БССР.** Па падпісцы Белсельтрэсту саўхозам будзе высылацца часопіс „Плуг“ толькі да 1 студзеня 26 г. Надалей просьба да кожнага саўхозу зрабіць падпіску самастойна.

**Упаўнаважаным па пашырэньню часопісі „Плуг“.** У каго застаўся № 8 і 9 часопісі „Плуг“, просьба зьвярнуць іх рэдакцыі з прычыны недахопу гэтых нумароў для складаньня гадавых комплектаў часопісі.

**(Рэд.).**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Досьлед з кармленьнем цялят.

*(Аршаншчына).*

Шмат гаспадароў нашых вёсак заўсёды думаюць, што палепшаную жывёлу можна здабыць толькі дзе-небудзь на старане (у савецкай гаспадарцы, таварыству, на культурным хутары і г. д.) і мала цікавяцца палепшваньнем сваёй жывёлы.

Калі пачнеш гутарыць, што незаўсёды трэба шукаць завадзкую жывёлу, а што можна і сваю так выгадаваць, што яна будзе больш прыбытачна, дык бываюць запытаньні; „А як-жа яе гадаваць, калі ня ведаеш, каму трэба даваць малако: ці цяляці, ці свайму дзіцяці“. Выходзіць так, што цяляці застаецца вельмі мала малака; яно галадае і і марнее з першых дзён. Селянін пачынае прывучаць яго да грубага корму як можа раней, не зважаючы на тое, што, калі цяля змарнее з першых дзён, то пасьля яго ўжо ніяк не палепшыш.

Гэты выпадак у бягучым годзе быў яскрава адзначаны пры праводзеньні намі паказальнага кармленьня цялят у вёсцы Азерцах, Талачынскага раёну (Аршаншчына). Пры складаньні групы цялят большая частка іх была старэй аднаго месяца і толькі двое мелі па 7 дзён, якія і далі найбольшы эфэкт.

Для прыклада параўняем цялушку (№ 5) з першай групы і бычка (№ 6) з другой. Перад пачаткам кармленьня бычок важыў 1 пуд. 10 ф., а цялушка 2 пуды 4 фун.; праз месяц бычок заважыў 2 пуд., а цялушка 2 п, 26 фун.

За гэты час было дадзена ў корм:

| | Малака нязьбіранага. | Мукі аўсянай | Прырост у дзень |
|---|---|---|---|
| Бычку . . . . | 11 пуд. 3 фун. | — | 1 фун. |
| Цялушцы . . . | 7 „ 7 „ | 1 пуд 20 ф. | 0.7 „ |

На 1 фунт прыросту трацілі—
Бычок . . . 14,5 ф. малака
Цялушка . . . . 13. „ „ і 2 фун. аўсянай мукі.
На другі месяц цяляты важылі -

| | Вага | Прывес | Скормлена | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Малака нязьбіранага | Мукі аўсянай |
| Бычок. . . | 3 пуд. | 1 п. | 6 п. 2 ф. | 1 п. 31 ф. |
| Цялушка. . | 3 п. 6 ф. | 20 ф. | 3 „ 8 „ | 1 „ 37 „ |

Такім чынам, бычок у дзень прыбаўляўся на 1,3 ф., і на павялічэньне 1 фун. вагі траціў 6 фун. малака і 1,7 ф. аўсяняй мукі, а цялушка прыбаўлялася на 0,6 ф. і на 1 ф. павялічэньня вагі траціла 6 ф. малака і 3,5 фун. аўсянай мукі.

Гэта ўсё гаворыць за тое, што бычок, які з першых дзён атрымаў належны корм і догляд, даваў у дзень амаль у два разы большы прырост вагі, чым цялушка, і на 1 фунт яго прыросту траціласяа агулам менш корму. Другія зьявішчы тут вялікага значэньня ня мелі (большая вага пры нараджэньні і г. д.).

Прачытаўшы гэты артыкул, селянін скажа, што яму не па кішэні такое кармленьне. І гэта праўда. Трэба, каб у гэтай справе маламоцнаму сялянству дапамог крэдыт улады; тады сялянства, выгадаваўшы жывёлу, аплаціць страты, панесеныя на кармленьне. Такім парадкам наша жывёлагадоўля будзе запраўды палепшвацца, будзе больш жывёлаводных таварыстваў.

І. Т.

---

## Як карміць кароў.

Сяляне часта кажуць, што яны бяз усякай навукі ўмелі-б карміць кароў, калі-б мелі шмат корму. Але гэты погляд ня зусім правільны. бо карову можна перакарміць і гэта таксама дрэнна.

Мне ў гэтым годзе давялося гэта чуць і ад самых сялян. Напр., у вёсцы Малыя Шарыпы, Горацкага раёну вельмі стары гаспадар Хосман казаў сялянам і мне, што ён добрую карову перакарміў. Карова зрабілася жырнаю, але перастала даваць малако.

Вельмі часта бывае, што каровам даюць багата грубага корму (сена, саломы, мякіны і інш.) і яны ня могуць ператравіць усяго. Ад гэтага перапаўненьня жывата каровы толькі зьмяншаюць удоі.

Недакармліваць карову таксама дрэнна: яна будзе мала даваць малака. Пры голадзе карова перш-на-перш бярэ харчы на падтрыманьне свайго жыцьця і толькі пасьля гэтага лішкі корму перарабляе ў малако. Калі гэтыя лішкі бываюць малыя, то карова дасьць мала і малака, што не карысна гаспадару.

Прымаючы пад увагу гэта, мы разьбярэм, як трэба карміць кароў.

Усякая жывёла павінна атрымоўваць корм дзеля таго, каб жыць. На падтрыманьне жыцьця трэба на 3 пуд. жывой вагі 1 фунт кармовых адзінак.

За кармовую адзінку лічаць 1 фунт сярэдняга аўса; з ім і раўнуюць усякі іншы корм.

Вызначыць вагу каровы можна абмерам яе даўжыні ад пачатку хіба да хваста і таўшчыні за лапаткамі ў вяршкох. Гэтыя дзьве лічбы трэба перамножыць і падзяліць на 40; тады будзем мець жывую вагу каровы ў пудох. Напрыклад, даўжыня нашай каровы ад пачатку хіба да хваста 24 вяршкі, а таўшчыня за лапаткамі 30 вярш. Перамножыўшы 30 на 24 будзем мець 720; знача 720 фун. Падзяліўшы гэту лічбу на 40, будзем мець 18 пуд. жывое вагі наша карова. Гэты спосаб для маладое жывёлы не падходзіць.

Далей, карове патрэбна даць корм на малако (продукцыйны корм). Рахунак вядзецца так: на 3 фун. малака патрэбна адна кармовая адзінка.

Апрача гэтага, у вапошнія пяць месяцаў перад цяленьнем карове патрэбна прыбаўляць адну кармовую адзінку на ўзрост цяляці.

Здараецца, што карова ўсё прыбаўляе малако. Тады ёй трэба прыбаўляць і корм, пакуль удой ня стане на аднэй меры.

Худым каровам, асабліва перад цяленьнем, трэба таксама падбаўляць корм на папраўку самой каровы.

На адну кармовую адзінку трэба ўзяць паасобку:

| | | |
|---|---|---|
| сена канюшыны | 2 | фун. |
| „ лугавога (добрага) | $2^1/_2$ | „ |
| „ балотнага | 3-4 | „ |
| мякіны | $3^1/_2$ | „ |
| саломы яравой | $3^1/_2$ | „ |
| „ азімай | $5^1/_2$ | „ |
| бульбы | $3^1/_2$ | „ |
| буракоў | $9^1/_2$ | „ |
| брагі бульбянай | 25 | „ |
| канюшыны зялёнай | 6 | „ |
| выкі з аўсом (зялёнай) | 8 | „ |
| травы | 6 | „ |
| аўса | 1 | „ |
| высевак | 1 | „ |
| макухі льнянай | $^3/_4$ | „ |

Цяпер папрабуем злажыць норму карове, *якая важыць 18 пуд., дае 15 ф. малака і цельная.* На падтрыманьне жыцьця ёй патрэбна 6 кармовых адзінак, на малако 5 і на цяля 1; усяго 12 ф. кармовых адзінак. Такой карове, каб яна ня худзела і ня жырэла, патрэбна на гэтыя 12 фун. кармовых адзінак набраць корму.

Харчы бяруць такія, якія ёсьць у гаспадарцы ці якіх можна ня дорага прыкупіць. Пры наборы корму абавязкова патрэбна, каб яны складаліся з саломістых кармоў (сена, салома). з вадзяністых (бульба, буракі) і спажыўных (зярно, макуха і інш.). Саломістых кармоў трэба ўзяць прыблізна на дзень карове столькі фунтаў, колькі пудоў яна важыць. Рэшта кармовых адзінак набіраецца з вадзяністых і спажыўнага корму.

Нашай карове на дзень (пасялянску) можна даць:

| | | |
|---|---|---|
| сена сенажаці | 5 фун. | 2 карм. адзінкі |
| саломы яравой | 7 „ | 2 „ „ |
| мякіны | 7 „ | 2 „ „ |
| бульбы | $10^1/_2$ „ | 3 „ „ |
| макухі | $2^1/_4$ „ | 3 „ „ |
| Усяго. | | 12 карм. адзінак. |

Пры складаньні нормаў мы павінны заўсёды мець на ўвазе кошт у грашох адной кармовай адзінкі і падбіраць больш танны корм. Але выбіраючы і танны корм, мы павінны ведаць, што карова ня можа абысьціся бяз корняплодаў і спажыўнага корму. Бяз дачы гэтага корму гаспадар ня зможа мець ад каровы добрага ўдою, хоця-бы ён і даваў ёй патрэбны лік кармовых адзінак у саломістым корме.

**С. Журык.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

# Якім аўсом карміць коні.

Авёс лічыцца самым лепшым кормам для коняй. Акрамя вялікага процанту спажыўнага „бялка“, у ім ёсьць яшчэ такія матэрыі (авянін), якія ўздымаюць энэргію і сілу каня.

На жаль, пры такіх высокіх якасьцях аўса, у продажу вельмі часта сустракаюцца ў ім розныя шкадлівыя прымешкі. Часьцей за ўсё ў ім можна спаткаць зярняты кукалю, якія пазнаюцца па іх чорнаму колеру і шурпатай паверхні. Зьеўшы авёс з кукалем, у коняй зьяўляецца хвароба жывата, а то часамі і колікі.

Апрача кукалю ў аўсе сустракаюцца зярняты жыціка дурмановага. Гэтыя зярняты па свайму выгляду вельмі падобны да аўса. Але пазнаць іх прымешку вельмі лёгка. Для гэтага трэба пусьціць жменю аўса на ваду, зярняты жыціка, як больш лёгкія за авёс, усплывуць на верх і будуць плаваць. Апрача гэтых шкодных прымешак у аўсе сустракаюцца і іншыя; яны ня шкодныя, але абязцэньваюць авёс. Да такіх прымешак у аўсе трэба прылічыць зярняты аўсюга, валошкі, мятліцы і інш. На самым-жа аўсе могуць быць яшчэ яго грыбныя хваробы. З гэтых грыбкоў трэба назваць іржу і галаўню або сажу. Ад іржы на зярнятах аўса зьяўляецца буравbooты ці жоўта-чырвоны пылок, падобны да іржы жалеза. Ад сажы або галаўні на аўсе можа быць чарнаваты пылок. Калі апусьціць такі авёс у ваду, дык пылок усплыве наверх. Авёс папсуты гэтымі грыбкамі лічыцца шкодным, бо ён выклікае розныя хваробы ў жываце каня.

Апрача ўсяго гэтага, авёс павінен быць сухім і ня тухлым. Прытухлы авёс выклікае хваробы ня толькі ў жываце, а таксама галавакружэньне і слабасьць. Сьвежы сыраваты авёс таксама даваць коням не раіцца, бо ён цяжка страўляецца, менш спажыўны і можа выклікаць пранос, запор ці колікі. Авёс павінен мець прыемны пах і жаўтаваата-белы, бліскучы колер.

Коням даюць авёс цэлы, па 10-15 фун. у дзень, пасьля паеньня. Маладым жарабятам даюць звычайна ад 3-7 фун. на дзень. Ня трэба адразу даваць многа аўса. Пры такіх дачах авёс страўляецца марудна, коні хварэюць колікамі.

Вэтэрынар Агапітаў.

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Вуглянка (Карбунак).

(Antrax).

Паміж заразьлівымі хваробамі, что пануюць сярод нашай жывёлы, вуглянка або карбунак належыць да найбольш небясьпечных хвароб. Небясьпека гэтае хваробы ня толькі ў тым, што яна мае вялікі нахіл пашырацца і выклікае значныя страты сярод жывёлы, але найбольшая пагроза ад яе ў гаспадарцы залежыць ад таго, што зараза вуглянкі надзвычай трывалая. Гэтая надзвычайная трываласьць заразы вуглянкі ёсьць факт даказаны штодзеннаю практыкаю і праўджаны навукаю.

Шмат дзе і ў нас, на Беларусі, знаходзяцца такія мясьціны, асабліва дзе па балотах і па нізкіх выганох, на якіх не адзін год раптоўна прападала жывёла з нямаведама якое прычыны. Самі гаспадары стараюцца не ганяць туды сваёй жывёлы на пашу, ня пояць яе з бліжэйшых ля гэтых мясьцін сажалак, рачушак і інш.; прапаўшую жывёлу стараюцца закопваць як найглыбей у зямлю разам і з шкураю, а таксама сьпяшаюцца знайсьці параду ў свайго вучастковага вэтэрынара.

Вядома, што бяда навучае кожнага, як дапамагаць сабе. Але гэтага яшчэ мала. Кожны гаспадар павінен добра пазнаць сваіх ворагаў, павінен добра азнаёміцца, як змагацца з гэтымі ворагамі, калі яны націснуць на яго,—але галоўнае—павінен імкнуцца да таго, каб папярэдзіць злы напад усякіх шкоднікаў. А дзеля гэтага ён павінен вывучаць іх, альбо паслухаць і пачытаць. Асабліва гэта патрэбна ведаць аб такой небясьпечнай хваробе, як вуглянка.

Вуглянка была вядома народам з даўных часоў. Па ўсяму сьвету ад яе прападала шмат жывёлы і людзей, пакуль не даведаліся адкуль яна бярэцца і як з ёю патрэбна змагацца. У 1617 г., напрыклад, ад вуглянкі памерла ўва ўсей Эўропе каля 60 тысячаў адных толькі людзей, ня лічучы жывёлы. У даўнейшай Расіі, у 1906 г. ад вуглянкі*) прапала 51.763 галавы свойскае жывёлы за адзін год, і ўсё найбольш прападала жывёла ў сялян. Да і ў нас, на Беларусі, таксама штогод ад вуглянкі прападае нямала жывёлы; ёсьць нават такія мясьціны, найбольш па балотах, дзе гэтая хвароба кожны год выбухае і толькі дзякуючы розным спосабам, якія ўжываюцца супроць яе, яна ня мае вялікага пашырэньня і заціхае, застаючыся ў пэўных межах. Напрыклад, за адзін месяц жнівень 1924 г. вуглянка выбухнула ў 35 сялібах ва ўсіх 10 акругах, дзе захварэла на гэтую хваробу 107 кароў і коняй, з якіх 97 штук прапала. Таксама ў нас вядомы здарэньні, калі людзі, заразіўшыся ад хворай на вуглянку жывёлы, альбо ад зьдертае з яе скуры, паміралі, і толькі некаторыя з іх, якія своечасова зьвярталіся да дактароў, ачуньвалі.



*Кропля крыві жывёлы хворае на вуглянку (карбунак), павялічаная пад мікроскопам.* На малюнку відаць „чырвонакроўнікі“ і „белакроўнікі“ (з ядрамі у сярэдзіне); паміж імі раскіданыя мікробы вуглянкі, якія маюць выгляд кароценькай палачкі з абсечанымі кончыкамі.

*Прычына*, якая выклікае вуглянку,—гэта дробненькія жывыя істоткі, так званыя мікробы вуглянкі; убачыць іх можна, напрыклад, у кроплі крыві ўзятай ад хворае жывёлы, калі павялічыць гэтую кроплю разоў у 600 праз мікроскоп.

Гэтыя мікробы, трапіўшы ў цела жывёлы альбо ў чалавека, неймаверна хутка растуць і множацца там у крыві: праз некалькі гадзін з аднаго мікроба ўтвараюцца мільёны іх. Яны жывуць і выпушчаюць

*) Вуглянка па расійску завуць „сібірская язва“.

з сябе сваю атруту, якая зараз-жа атручвае ўсё цела жывёлы, а перад усім яе кроў, і з гэтае прычыны жывёла вельмі хутка памірае.

Прыкраю асаблівасьцю мікробаў вуглянкі зьяўляецца тое, што яны ў трупе прапаўшае ад іх жывёлы ўтвараюць так званыя *заroднікі* (насеньне), якія могуць жыць у зямлі нават больш за 10 год, і потым, пры спагадных умовах, калі трапяць у цела якой жывёлы, зноў затручваюць яе на сьмерць.

Адгэтуль ужо відаць, што нават зарыты ў зямлю труп жывёлы, якая прападзе ад вуглянкі, заражае зямлю насеньнем гэтых мікробаў, не гаворачы ўжо аб той здыхляціне, што выкідаецца куды-небудзь пад плот або ў лес нядбайным гаспадаром. Няма чаго казаць ужо аб тым, што ўсюды, дзе толькі застаюцца сьляды крыві, альбо калу ці мачы хворае жывёлы,— пазастаецца і зараза. Таксама небясьпечны магілы і ямы, дзе валяюцца незарытыя трупы, косьці, капыты, рогі і інш., альбо дзе ёсьць незагароджаныя могілкі, куды, пасучыся, можа заходзіць жывёла. Ваўкі, сабакі, лісы, таксама могуць лёгка разрываць плыткія магілы і расьцягваць заразу. Нават мухі і авадні разносяць яе на далёкія прасторы. Няхай толькі муха, якая сядзе на трупе, а потым укусіць здаровую карову альбо іншую жывёлу ці чалавека, як зараза перанясецца на іх. Або няхай скура з прапаўшай ад вуглянкі жывёлы трапіць куды на гарбарню, як ад яе могуць заразіцца некалькі чалавек. Таксама, калі поўсьць або волас ад хворае жывёлы трапіць да шчотачнікаў, яны могуць заразіць шмат народу, і нам вядома, што шчотачнікі досыць часта хварэюць на вуглянку.



*Палачкі вуглянкі з зароднікамі ў сярэдзіне.* Белыя кропкі—зароднікі.

*Адзнакі.* 1) Хварэе вуглянкаю жывёла найчасьцей улетку, але бывае, што і зімою. Спачатку, пасьля заразы, дзён 1—7, у жывёлы нельга заўважыць ніякіх зьмен, хвароба цягнецца ў яе патаемна. Пасьля таго ўжо раптоўна выступаюць адзнакі вуглянкі. Яны могуць быць розныя. Але найбольш вуглянка выяўляецца ў двух выглядах: 1) унутраная форма—раптоўная, калі жывёла адразу валіцца з ног і памірае праз некалькі гадзін, а часамі і мінут; пры гэтым з носу, роту і з задняга выхаду ў жывёлы выцякае кроў, а сьлізьніца гэтых часьцін цела выглядае сіня-чырвонаю. Такая жывёла як-бы згарае ў сярэдзіне на вугаль (адгэтуль паходзіць і назва хваробы „вуглянка“). Часамі з раніцы ў хляве знаходзяць карову мёртваю, якая з вечара выглядала зусім здаровай, а коні замертва ўпадаюць у аглоблях, пры рабоце. Бывае ў іншых выпадках, што хвароба зацягваецца дні на два-тры; тады можна заўважыць, што яна перастае есьці, піць, цяжка дыхае, дрыжыць, гарачка ў яе даходзіць да 41-42 градусаў, вочы западаюць, жывёла стаіць, як пасалавелая, і ўрэшце канчаецца. 2) Другая форма вуглянкі, так званы *карбунак*, часьцей бывае ў коней і адзначаецца тым, што па целе жывёлы зьяўляюцца вопухі (карбункулы): на галаве, на шыі, на грудзях, на жываце, вымені і на іншых мясцох. Спачатку гэткі

вопух усхопіцца невялічкі, гарачы і балючы, а далей ён павялічваецца, робіцца халодны і небалючы і займае значную частку цела. І пры гэтай форме вуглянкі, пры карбунку, таксама бываюць іншыя адзнакі, асабліва ў пачатку хваробы: гарачыня ў целе, жывёла перастае есьці і інш. Наогул, карбунак зацягваецца дзён на 3—7; пасьля гэтага, калі не лячыць, жывёла прападае.

*За лячэньнем, зразумела, патрэбна зьвяртацца толькі да вучастковага вэтэрынара* і ні ў якім разе не прасіць дапамогі ў знахароў і канавалаў, асабліва не даваць ім спушчаць кроў, альбо разразаць вопух у хворай жывёлы.

Наогул, вуглянку трэба западазраваць і зараз-жа зьвярнуцца да вэтэрынара: 1) *Калі жывёла раптоўна памрэ*, яе моцна абдуе пасьля сьмерці, і калі з задняга выхаду, з рота і з носа будзе выцякаць кроў альбо крывавая жыжка. 2) Калі ў жывёлы без усякае відавочнае прычыны зьявіцца дзе-колечы на жываце альбо на грудзях *небалючы вопух*, які хутка будзе павялічвацца.

**Што рабіць, калі ў гаспадарцы аб'явіцца вуглянка.**

Перш за ўсё патрэбна *неадкладна паведаміць вэтэрынара* і, не чакаючы нават яго прыезду, пастарацца высьветліць, адкуль магла пайсьці зараза. Далей, ня трацячы часу, *усю здаровую жывёлу абавязкова патрэбна зараз-жа вывесьці з таго хлява, дзе аказалася хворая жывёла* і адзяліць яе ад заражанага месца. Калі жывёла раптам памрэ на пашы або ў полі, то патрэбна зараз-жа зьмяніць пашу і на тое месца ня пушчаць ужо ніякае жывёлы. Ляпей тады ўсіх кароў вёскі паставіць па дварох тыдні на два і сачыць за іх здароўем. Калі ў працягу двох тыдняў яны не захварэюць, тады можна лічыць, што застануцца і надалей здаровымі. Гной пасьля хворых патрэбна вырезьці і спаліць, а на месцы памёршае жывёлы нікога ня ставіць без парады вэтэрынара: ён дасьць параду, як зрабіць ачыстку і дэзынфэкцыю хлява, драбіны, жалабоў і інш.

Галоўным чынам, *патрэбна прыбіраць трупы памёршай жывёлы, закопваць іх са скураю на раней вызначаным дзеля, гэтага месцы, засыпаючы іх ня менш, чымся на 2 мэтры глыбінёю, дзе-колечы на высокім і пяшчаным узгорку*, куды ня ходзіць ніякая жывёліна; найлепш было-б гэткія трупы паліць.

Таксама неабходна *старанна выконваць ўсе загады вэтэрынара*, калі ён праканаецца, што гэта хвароба ёсьць іменна вуглянка, і калі загадае пэўныя спосабы, як канчаткова зьнішчыць заразу ў гаспадарцы (сялібе).

Цяпер здаровай жывёле робяць *засьцярагаючае шчапеньне* процi вуглянкі, падобна да таго, як шчэпяць воспу людзям. Як зашчэпляныя людзі не баяцца захварэць натуральнаю воспаю, так і зашчэпляная жывёла забясьпечана ад вуглянкі, прынамсі на які год. Вось чаму вельмі неабходна рабіць гэткае шчапеньне асабліва ў тых мясцовасьцях, дзе вуглянка зьяўляецца год-ад-году.

Ів. Серада.

Горкі, с.-г. Акадэмія

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Аб сувязі с-г. гурткоў з сялянамі-культурнікамі.

На старонках часопісі „Плуг“ усё часьцей і часьцей зьяўляюцца заметкі аб сялянах-культурніках. Гэтыя сяляне зьяўляюцца перадавой часткай вёскі. Мала таго, яны праз упартую сваю працу, прыслухоўваючыся да агрономіі, а то і дзякуючы якім-небудзь выпадковым здарэньням, навучыліся лепшаму і прылажылі гэта да сваіх гаспадарак. Гэтыя сяляне ня ўмеюць агітаваць за сябе, але гаспадаркі іх адрозьніваюцца. У іх ураджаі ў 2-3 разы вышэйшыя, жывёла мае лепшы выгляд, лепшы сад і гарод. Чаму-ж гэта так? А *напэўна таму, што гэтыя сяляне робяць рэволюцыю ў гаспадарцы.*

Ёсьць яшчэ і другі падыход да палепшаньня сялянскіх гаспадарак. Гэта с-г. гурткі і дзіцячыя садова-гародныя клюбы. Гэтыя організацыі маюць на мэце шырокую перабудову вёскі, яе гаспадаркі і жыцьця. Гурткі часта стыхійна закладаюцца. Шпарка распачынаюць працу, але часта ня могуць зьвязацца з жыцьцём. Гуртkоўцы сядзяць больш над тэорыяй. Летам-жа праца гурткоў замірае. У меншым ліку выпадкаў праца гурткоў пераносіцца да самога жыцьця—у *поле ды хлявы.* Няма ў гуртках сталых кіраўнікоў, недахват агрономаў. Аднаму агроному даводзіцца абслужваць 10-15 гурткоў.

Я лічу, што трэба зблізіць с-г. гурткі з сялянамі-культурнікамі. Яны ёсьць амаль што ні ў кожнай вёсцы. Праз гурток селянін-культурнік пачуе с-г. веды, прачытае аб агрономіі, а ад яго гурток навучыцца ўсяму практычнаму. Практыка культурніка дапаможа гуртку летам і зімою ў працы. Селянін-культурнік павінен быць залічан сябрам гуртку. Ён павядзе сяброў гуртка да сябе і ўсё пакажа. Яго словы будуць падмацованы відавочным дасягненьнем. Тады праца гуртка ня будзе толькі зімовая-тэорэтычная. Яна будзе весьціся праз увесь год. Зімою будуць заняткі па кнізе, даклады, гутаркі справаздачы, а летам практычна ў полі.

З селянінам-культурнікам гурток можа зрабіць наступнае:

1) залажыць вопыты па угнаеньню;

2) організаваць злучны пункт (калі мажліва),

3) ачыстку насеньня,

4) пракатны пункт с-г. машын,

5) ацэнку шматпольнага севазвароту;

6) культурны пасеў сартовага палявога насеньня, гародніны і г. д.

Аб усім гэтым трэба парадзіцца і з мясцовым агрономам, каб ня было памылак.

Выкарыстаньне вопыту селяніна-культурніка да гэтай пары мела выпадковы характар. А трэба яго выкарыстаць с-г. гуртку больш поўна.

У такой сувязі і праца с-г. гурткоў будзе больш сталай.

Часопісь „Плуг" на сваіх старонках дае магчымасьць выказацца наконт с-г. гурткоў. Патрэбны цэлы шэраг артыкулаў аб ідэвай і мэтодычнай працы гурткоў, аб практычнай рабоце і г. д. Словам, трэба зблізіць тэорію з практыкай.

Вельмі пажадана, каб у „Плугу" самі гурткі выказаліся аб сваёй працы.

**Сьц. Кот.**

---

# Да працы с-г. гурткоў.

С-г. гурткі ў мінулым годзе існавалі ўжо ў даволі значным ліку (у некаторых раёнах іх было да 10). Але калі паглядзець на працу, гурткоў дык досьлед мінулага году паказвае ня зусім добрыя вынікі. Значная частка гурткоў амаль зусім не працавала. Прычын, якія перашкаждалі добрай працы гурткоў, было многа. Перш недахват агрономаў. Гурткі ня мелі агрономічнага кіраваньня. Вядома, што ў шмат якіх гурткох праца распачыналася, але вельмі хутка і спынялася.

Другая прычына—гэта організацыя ў адным месцы некалькіх гурткоў, розных толькі па складу сяброў. Напрыклад, гурткі пры хатах-чытальнях для моладзі, пры нардомах для дарослых сялян, пры ячэйках ЛКСМ для іх членаў. У такім месцы агроном павінен быў раскідвацца па ўсіх гурткам і наладзіць працу ня мог.

Таксама былі недахваты і ў програме[1]).

Урэшце трэба сказаць, што дрэнны ўплыў на працу гурткоў рабіць і адсутнасьць матэрыяльных сродкаў.

Мэты с-г. гурткоў вымагаюць большай увагі. Пры перабудове-ж гурткоў трэба мець на ўвазе прыкладам наступнае.

1. Адмовіцца ад організацыі гурткоў у значным ліку. Перш організаваць гурткі там, дзе ёсьць агроном ці добра сьвядомыя ў сельскай гаспадарцы працаўнікі.

2. У вадным месцы закладаць толькі адзін с-г. гурток, сябрамі якога могуць быць дарослыя сяляне, сялянская моладзь (разам з ЛКСМ).

3. Перагледзець програму гурткоў і пабудаваць яе ў больш практычны бок.

4. Гуртком патрэбна грашовая дапамога.

5. Практычную частку працы трэба будаваць залежна ад мясцовых асаблівасьцяй раёну.

Між тым здараецца часта, што кіраўнікі гурткоў ня лічацца з практычнымі пытаньнямі. Адна тэорытычная праца вельмі хутка паслабляе цікавасьць слухача.

У кірунку практычных заняткаў можна было-б раіць: 1) азнаёміць слухачоў з простымі спосабамі назіраньня за пагодаю; 2) паказаць, як весьці запіс некаторых зьяў прыроды, якія робяць уплыў на сельскую гаспадарку (выпадзеньне першага сьнегу, канец зімы, прылёт і адлет птушак, распусканьне дрэў і г. д.); 3) праводзіць экскурсіі ў савецкія

---

[1]) Выданьне Галоўполітасьветы.

гаспадаркі, лепшыя сялянскія гаспадаркі, агровучасткі, с-г. музэі, на заводы с-г. прамысловасьці (бровар, тартак, маслабойны завод і г. д.); 4) ставіць простыя досьледы з мінэральнымі ўгноеньнямі, найлепш вырашчваць у полі сваёй гаспадаркі канюшыну, буракі, бульбу, лубін і г. д.

Адным словам, тэорытычную частку можна рознастаіць усякімі практычнымі заняткамі і гаспадарчай працай, каб праз гурткі ахапіць большы лік перадавога сялянства.

П. Заяц.

---

## Сяляне аб с-г. выстаўцы.

*(Сяло Сосьніцы Полацкага раёну).*

„Мы, сяляне Вярхчанскага с/с, Полацкага раёну, сяла Сосьніцы, сабраўшыся дзеля абгаварваньня пытаньня „Сьвята Ураджаю“ і ўдзелу на с-г. выстаўцы, выказваем некалькі пажаданьняў у разьвіцьці сельскай гаспадаркі:

1. Вітаем Урад за думку організоўваць с-г. выстаўкі. Выстаўка вучыць нас, паказвае лепшыя прыклады, узвышае настрой старанных сялян і служыць дакорам гультаём.

2. Мы пакажам на выстаўцы ўсё лепшае, што маем.

3. Нам патрэбна пашырэньне с-г. ведаў праз выстаўкі і інш. спосабамі. Нам патрэбна ў акрузе с-г. школа, якая-б вучыла нашых дзяцей сельскай гаспадарцы пасьля сканчэньня школ 1 і 2 ступені.

4. У школах 1 ступені патрэбен с-г. ухіл. Усё навучаньне тут павінна мець сувязь з сельскай гаспадаркай.

5. Настаўнікі павінны мець агрономічную падрыхтоўку, каб весьці прыкладную гаспадарку на школьных вучастках. Тут-жа яны маглі-б навучаць нашых дзяцей, як весьці лепш гаспадарку.

6. У быўшым панскім маёнтку трэба організаваць прыкладную гаспадарку, якой павінен правіць агроном. Туды мы хадзілі-б за парадамі па сельскай гаспадарцы. Там-жа ў доме можна зрабіць сталую выстаўку-музэй для ўсёй акругі. У музэі можна паставіць колекцыі нашых расьлін палявых, гародных і лугавых, рознае насеньне, шкоднікаў сельскай гаспадаркі і г. д., павесіць на сьценах плякаты, вынікі вопытаў і г. д.

Зімою ў гэтай гаспадарцы заўсёды павінна быць чутна гутарка агронома на розныя с-г. тэмы, а гаспадарка паказвацца сялянам, што і як рабілася тут для лепшых ураджаяў і г. д.

Пры гаспадарцы павінны быць ўсе машыны, добры сад і гарод, пасека пчол, палепшаная ці завадзкая скаціна. У гэтай гаспадарцы цікава было-б селяніну дастаць сартавое насеньне, хоць па жмені патрэбных мінэральных угнаеньняў, насеньне лубіну, сэрадэлі, канюшыны і г. д. Тут-жа ў гэтай гаспадарцы павінны знаходзіць сабе месца і с-г. курсы для сялян зімою. Наогул, задача гэтай прыкладнай гаспадаркі— быць дарадчыкам і правадыром для ўсіх сялянскіх гаспадарак раёну.

7. Пры сельсаветах павінны быць с-г. бібліотэкі і невялічкія с-г. музэі, дзе захоўваюцца лепшыя экспонаты с-г. выставак*.

*Подпісы сялян.*

---

*) Пастанову сялян сяла Сосьніцы ў Рэдакцыю пераслаў Г. Шасьцітка. (Рэд.)

# Дзіцячы капусны клюб у вёсцы Новыя Тарасавічы.

*(Асіповіцкі раён, Бабруйшчына).*

У красавіку 1923 г. агрономам і памоцнікамі яго ў Нова-Тарасавіцкай пачатковай школе было прачытана некалькі лекцый на тэму: „Як гадаваць капусту і іншую гародніну, карысьць ад гароду“ і г. д. Гаварылася і аб удзеле дзяцей у гэтай працы, аб арганізацыі дзіцячых капусных клюбаў. Настаўніца школы Зіна Дарняк зацікавілася гэтай працай. Каб лічыцца сябрам клюбу, кожны вучань павінен быў мець хоць невялічкую градку зямлі. На другі дзень пасьля парады з бацькамі 32 вучняў, толькі 12 дзяцей атрымалі градкі, астатнім бацькі адмовілі. Градкі былі маленькія (каля 5 саж.), бо бацькі ня верылі ў гэту ідэю і давалі дзецям градкі, абы адчапіцца. Так і пачалі працу пры няспрыяючых умовах.

Да 10 траўня была высаджана браўншвэйская капуста. Пасадзілі па 10, 20, а то і 30 расьлін расады. Гатавалі градкі дзеці самі пад кіраваньнем агронома і штодзенным наглядам настаўніцы. Вечарам ці зранку дзеці зьбіраліся і вялася гутарка ў прысутнасьці настаўніцы аб заўтрашняй працы. Назаўтра зраньня гэта праца праводзілася на 2-3 градках у прысутнасьці ўсіх дзяцей, агронома і настаўніцы, а далей ужо праца праводзілася пад доглядам настаўніцы. Трэба сказаць, што дзеці ў большасьці цэлыя дні былі занятыя: хто пасьвіў кароў, хто коняй ці сьвіней. Працаваць даводзілася ім зранку ці позна ў вечары. Дзеці і настаўніца ўставалі да сьвету і працавалі на гародзе. Ніхто з дамашніх ня сьмеў дакрануцца да градкі. Як толькі зьявіўся які-небудзь чарвяк на капусьце, ужо назаўтра яго дзеці з пашкоджаным лістом несьлі на агропункт і тут-жа прымаліся меры барацьбы. Па сьвятам дзеці працавалі ў сваіх гародах, хадзілі на агропункт за 4-5 вёрст, аглядалі гарод агропункту і слухалі тут гутарку аб працы на гародзе.

Спачатку дзіцячая капуста нічым не адрозьнівалася і бацькі сталі ўжо сьмяяцца над агрономіяй і над дзяцьмі. Але далей дзеці сталі ўжываць паліўку капусты з кароўяга і птушынага калу, асыпаньне і г. д. К Пятру ў дзяцей былі ўжо качаны капусты да 10 фун. (у бацькоў толькі лісьце). К восені ў некаторых капусьнікаў была капуста па 32 фунты а ў бацькоў 2-4 фун. Калі капусту трэба было сьсякаць, прыехала экспэртная комісія з прадстаўнікоў волвыканкому, сельсавету, інструктара па гародніцтву, настаўнікаў і агронома. Агледзелі ўсю капусту, як дзяцей, так і іх бацькоў. Далей быў скліканы сход сялян-бацькоў. На сходзе дзеці расказвалі, як гадавалі капусту, якія перашкоды ім чынілі бацькі і г. д. Бацькі далі слова налета садзіць капусту, як садзілі і дзеці.

Усім дзецям тут-жа на сходзе былі разданы кніжкі па садоўніцтву і гародніцтву, якія прыслаў Павятовы Зямельны Аддзел. Настаўніцы таксама былі даны кніжкі. З радасьцю разыходзіліся дзеці і бацькі са сходу. Налета ў 1924 годзе ў клюбе было ўжо 65 чалавек (нават і няшкольнікі). Амаль палова вёскі залажыла гароды пановаму. *Капусны клюб ужо стаў гародным клюбам,* бо дзеці бяз спрэчак атрымалі зямлі колькі хацелі. Цяпер кожны меў сваю паравую градку, дзе выгадаваў нават памідоры, а ў гародзе былі градкі капусты, морквы, буракоў, гуркоў і г. д.

*К дню „Сьвята Ўраджаю“* дзеці мелі самую лепшую капусту на раённай с.-г. выстаўцы і атрымалі прэміі (*хлопцы мануфактуры на кашулю, а дзяўчаты шарсьцяныя хусткі*).

У гэтым 1925 годзе клюб налічваў 43 сябры, а вёска амаль без агрономічных парад чуць ня ўся мела добрую гародніну. Аднак, дзеці ішлі ўперадзе са сваёй гароднінай на с.-г. выстаўцы таксама атрымалі пачэсны дыплём.

Так, праз 3 гады працы дзіцячага капуснага клюбу ў вёсцы Н.-Тарасавічах назаўсёды адмовіліся ад старых прыёмаў разводзіць гародніну і перашлі к новым, больш карысным.

Цяпер працу з дзіцячымі гароднымі клюбамі неабходна перанесьці ў другую школу сельсавету. Шкода толькі, што агроному нельга абслужыць больш, як 1-2 дзіцячых капусных клюбы. Але вопыт Н.-Тарасавіцкага дзіцячага капуснага клюбу трэба шырока скарыстаць.

Райагроном **П. Сяргейчык.**

# Дні „Сьвята Ўраджаю“ ў Заслаўскім раёне*).

Сьвяткаваньне „Дню Ўраджаю“ пачалося 11 кастрычніка сходамі ва ўсіх сельсаветах з падлікам вынікаў мінулага году.

На сходах ня было скаргаў на дарагоўлю лесу, цяжкія падаткі, ня было чутно гутарак аб непатрэбнасьці агрономаў і г. д.

Больш усяго цікавіла далейшае коопэрацыйнае будаўніцтва ў раёне, крэдытовыя с.-г. таварыствы, уцягненьне туды сялянскіх укладаў і г. д.

Машынізацыя сялянскай гаспадаркі таксама цікавіла сваім практычным бокам.

Патрэба радковых сяўнікоў і другіх машын прымусілі прызнаць, што без машыннай коопэрацыі не абыйціся. Карыстаньне машынамі пракатных пунктаў толькі затрымоўвала-б самадзейнасьць гаспадароў.

Вопыт організацыі 2-х малочных арцеляй, якія перарабілі за поўгода больш 1.000 вёд. малака, даводзіць, што малочная коопэрацыя для развіцьця жывёлагадоўлі раёну ёсьць самая зразумелая і патрэбная коопэрацыя. „Коопэрацыйнае набыцьцё добрага быка, жарабка ў зьвязку з малочнай коопэрацыяй стала неабходным“, казалі сяляне. І гэта прымушае нашы заводзкія выхавальнікі быць гатовымі да новага попыту.

Апрача гэтых агульных сходаў, былі організованы ў нардамох, хатах-чытальнях і школах гульні з с.-г. ухілам, сьвяточныя сьценгазэты. Так прашлі дні 11, 12 і 13 кастрычніка.

Галоўнае-ж—выстаўка 14 кастрычніка ў Заслаўі.

На выстаўцы прынялі ўдзел 164 экспоненты. (Па гародніцтву—84 экспонаты, паляводзтву—66, садоўніцтву—5, пчалярству—1, жывёлагадоўлі—36, пташніцтву—1, кустарных вырабах (тканіна)—103). З усіх экспонатаў 157 прыпадае на сялян.

*Агляд выстаўкі.* Вось дзевяцітысячны ўраджай кармовых буракоў, шасьцітысячны ўраджай браўншвэйскай капусты і пяцітысячны ўраджай кармовай морквы (зялёнагаловая).

---

*) Артыкул скарочаны. (Рэд.)

Выніклі спрэчкі, ці можа вырасьці такая колькасьць на 1 дзес. Але экспэртная комісія спраўджвае гэта і пытаньне вырашаецца—„можа".

Яшчэ на полі гэтыя пасевы аглядалі і сотні сялян—экскурсантаў настаўніцкая раённая конфэрэнцыя, комсамольскія організацыі, курсы сельсаветаў і інш.

А вось экспонаты Пржыбыткі Ігната з Ганолеса; бульба, бручка на тарфяным угнаеньні пяскоў даюць больш 1.000 пуд. з дзес. Гэта вышукваньне таго шляху, па якім павінны пайсьці 1000 гаспадарак раёну. Тут бяз лубіну ні кроку.

Буйныя і чыстыя плады антонаўкі кажуць за клапатлівы і правільны догляд за садам.

Макарэвіч Ляксей з в. Надрэзка сваімі экспонатамі жыта, ячменю, пшаніцы, аўса, гароху, гародніны даводзіць, што магчыма павышэньне ўраджайнасьці і пры трохпольлі. Ён карыстаецца сартовым насеньнем, к гною сваёй гаспадаркі дадае лубін і мінэральныя парашкі.

Мяхедка Капітон з Заслаўя давёў, што можна павысіць ураджай жыта да 150 пуд. з дзесяціны. На сваіх 1,32 дзес. пахаці ім уведзены шасьціпалёвы севазварот з двумя зьменамі асыпных расьлін. Як бачым, памыляецца той селянін, які думае, што быццам для шматпольля патрэбны дзесяткі дсесяцін пахаці.

Стрынкевіч, Маеўскі і інш. давялі сваімі дасягненьнямі, што можна павысіць ураджай усіх культур поля, саду і гароду.

За нараканьні на саўхозы праглядзелі іх экспонаты; па ўраджаю даволі значныя дасягненьні.

Самую большую цікавасьць выклікаў трактар, які паказваў сваю працу недалёка адвыстаўкі. Зусім натуральна сказаў т. Шаціла, старшыня РСК: „Наша прывітаньне дарагому госьцю—трактару, які нясе з сабой многа адзнак новай вёскі." Наогул на выстаўцы ўсё казала, што ў нас ёсьць шмат матэр'ялу для разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Масавы ўдзел сялян у сьвяткаваньні, дае падставу спадзявацца, што дзень „Сьвята Ураджаю" будзе мець моцны бытавы характар.

Райагр. **Ф. Аўчыньнікаў.**

---

# Формы і мэтады агропрапаганды.

Толькі два гады таму назад Беларуская Агрономічная станцыя[1]) пры сваёй перабудове зьліквідавала адзін вельмі цікавы аддзел *(аддзел вывучэньня сялянскіх гаспадарак, пропаганды і прымяненьня).*

Але зараз гэты аддзел ізноў організуецца.

Дасьледчай станцыі, напэўна, нельга адрывацца ад жыцьця, багатага сялянскага вопыту, а часам нават і чыстай с.-г. творчасьці. Праца сялян-культурнікаў сотняў і тысяч сялянскіх гаспадарак даюць нам цяпер лепшыя прыклады.

Вось чаму зараз будзе зусім на часе ўспомніць і выказаць некалькі думак аб той працы, якую правёў аддзел пропаганды і прымяненьня пры самай організацыі Беларускай агрономічнай станцыі (1922-23 г.).

*Мэтодаў* ці *спосабаў агропрапаганды* можа быць толькі два— *„паказ" і „сказ"*, (*або слова*).

---

[1]) Цяпер Беларуская агрономічная дасьледчая станцыя.

Першы з іх выяўляе практычную дапамогу агронома сялянскай гаспадарцы. Селянін цікавіцца пракатным і злучным пунктамі, крэдытовым таварыствам, збытавой коопэрацыяй, парадай пры пераходзе на шматпольле, дапамогай вэтэрынара, с.-г. выстаўкай і г. д. Але і тут агроном не абыходзіцца бяз слова—„сказа". У больш-менш чыстай форме першы мэтод *(практычнай агропрапаганды)* мажліў толькі там, дзе сялянства ўжо аценіла працу агронома і дзе яно ў поўнай меры самадзейна. У такім разе, як кажа проф. Чаянаў, мэта агронома толькі накіроўваць у патрэбны бок разьвітак сялянскай гаспадаркі, робячы ўплыў на розум і волю гаспадара.

Другі-ж *мэтод* ці *спосаб* агропрапаганды *„сказ"*, (слова) мае значна большае значэньне (яго мо' трэба было-б лічыць адзіным мэтодам). Ён мае значэньне асабліва там, дзе агрономічная праца толькі пачынаецца і дзе насельніцтва *яшчэ вядзе спрэчкі ці патрэбен агроном і яго праца.* У такім разе агрономіі трэба перш над-усё популярызаваць самае сябе. Інакш перад агрономам сялянства будзе ўстрыманым і без давер'я да яго працы і жаданьня палепшваць іх гаспадаркі.

Вось чаму, сярод маладой беларускай агрономіі вельмі шмат было выпадкаў, калі найлепшыя парываньні пачынаючага агронома ў працы слабелі, а то й зусім зьнікалі, ня робячы ніякага ўплыву на вёску з яе цемраю і старым бытам.

*Што-ж вымагаецца ад слова, як мэтода?* Перш, агроному трэба вельмі добра ведаць таго, з кім ён гутарыць. *Трэба ведаць быт сялян, іх гаспадарку, умовы працы і нават спосаб іх разуменьня*[1]). *А сялянін тут вельмі адменны.* Ён думае простымі прыкладамі і паасобнымі ўражаньнямі, а ня складзенымі ў адно *паняцьцямі.*

Загэтым, ад *„сказа"* да сялян *вымагаецца яснасьць і зразумеласьць думкі, багацьце прыкладамі з іх працы і жыцьця*, простыя гаспадарчыя падлікі і г. д.

Нельга спадзявацца, што новы ці малады агроном, рынуўшыся ў вёску, адразу скажа сялянам у чым іх нядоля і адразу прымусіць іх розум і волю перабудаваць свае гаспадаркі, *пачаць багатае жыцьцё.* Далёка не. Агроному мо' доўга прыдзецца шукаць самае хворае месца ў сялянскіх гаспадарках, гутарыць на розныя тэмы, але верна і цьвёрда падыходзіць да аднэй галоўнай мэты, каб з яе пачаць працу[2]).

Вышукваючы галоўнага ворага сялянскай гаспадаркі, агроному прыходзіцца ўвесь час ставіць розныя с.-г. тэмы, уздымаць самадзейнасьць, бо толькі праз творчасьць сялянства і ахвоту палепшваць свае гаспадаркі *можна знайсьці шлях да Новай вёскі і даходнай сельскай гаспадаркі.*

*Тут „сказ", як мэтод, будзе мець вельмі шмат формаў.* Я пакажу толькі некаторыя, якімі карыстаўся *аддзел пропаганды і прымяненьня* Беларускай агрономічнай станцыі ў 1922-23 г.

Гэта быў час, калі наша агрономія была маладой і маналічнай[3]). Сялянская-ж гаспадарка перажывала ў поўнай меры крызыс. Цэны

---

[1]) Агроном—гэта добры настаўнік. Ён павінен ведаць псыхолёгію і дыдактыку а гэта менш усяго вывучаныя галіны. Цяпер агроном ня можа абмяжаваць сваю працу аднэй тэхнікай. Ён робіць гаспадарчы ўплыў, ён праводзіць у жыцьцё с.-г. і зямельную політыку Савецкай улады.

[2]) Напрыклад, шматпольле, кармовае пытаньне, малочная коопэрацыя і г. д.

[3]) У 1923 г. ў БССР на 1 агронома прыпадала 7712 дзес. пахаці; 114 насельніцкіх пунктаў; 14.472 сялянскіх гаспадаркі (лічбы статыстыкі НКЗ).

на с.-г. продукты былі ніжэй 1914 г., а на фабрыкаты вышэй. Гаспадарка амаль зусім натуралізавалася[1]) (ня мела гандлёвых зваротаў).

Селянін на ўсё глядзеў з недавер'ем. Але і першыя падыходы да вёскі працаўнікоў станцыі паказвалі добрыя вынікі.

*Якімі-ж формамі „сказа“ даводзілася карыстацца?*

1. *Агрогутаркі і лекцыі* ў вёсках, сельсаветах, на зьездах с/с., сялянскіх конфэрэнцыях і г. д.

Лепш праходзілі тыя гутаркі, калі кожную новую тэму высьвятляў і новы працаўнік станцыі [2]). Значнае ажыўленьне лекцыям рабілі 5—10 мінутныя выступленьні хору рабочай моладзі станцыі.

Пасьля другой ці трэцяй лекцыі працаўнікі станцыі ўжо мелі шмат запрашаньняў сялян пабываць у іх вёсках, на зьездах с/с, конфэрэнцыях і г. д. Мала гэтага, сяляне пачалі самі зьяўляцца на станцыі па розных пытаньнях (патравіць чарвей, паглядзець захварэўшую жывёлу, пагутарыць у нядзелю на іх сходзе і г. д.).

2. *Гутаркі і спрэчкі самых сялян на розныя с.-г. пытаньні, якія ставіць агроном.* Тут працаўнікі станцыі мелі раней апрацаваныя пытаньні для вывучэньня тэхнікі паляводзтва сялянскай гаспадаркі.

У вёсцы выбіралася тыповая гаспадарка, дзе і зьбіраўся сход сялян [3]).

Адзін з супрацоўнікаў ставіць пытаньні і кіруе спрэчкамі сялян, а другі запісвае. Пры гэтым бываюць пытаньні, якія не выклікаюць ніякай спрэчкі. Усе згодны з адказам і тлумачэньнем гаспадара. Але вельмі часта погляды сялян адрозьніваюцца. Адны, напрыклад, кажуць, што жыта лепш сеяць гусьцей, а другія радзей. Падымаюцца спрэчкі; пытаньне хутка высьвятляецца і ўсе прыходзяць да аднаго адказу, які і просяць запісаць у паперу. Але часта здаралася, што пытаньні нагэтулькі цікавыя і тлумачацца парознаму, што ўвесь сход падзяляецца на дзьве часткі: адны даводзяць праваты сваёй думкі, дадаюць прыклады сваёй працы, працы суседзяў, а другая частка гэтак-жа ўпарта адстойвае свае думкі і погляды. Напрыклад, ці можна касіць ўвосень канюшыну першага году. Спрэчкі канчаюцца тым, што хтонебудзь запытае: „Ну, скажэце, а як па вашаму?“ Даецца правільнае тлумачэньне, і ўсе здаволены.

Такая гутарка зацягваецца на 5-6 гадзін, але яе ўдзельнікі мяняліся праз 1-2 гадз. Падымаюцца і выходзяць адны, а замест іх прыходзяць новыя ці вяртаюцца зноў першыя.

3. *Фотографаваньне і агляд сялянскіх засеваў і гаспадарак разам з грамадой аднавяскоўцаў.* Гэта форма агропрапаганды нязвычайна здавальняе сялян. Тут селянін вытлумачыць усё, як ён рабіў, каб мець такія добрыя вынікі. Вельмі часта можна было бачыць, як праз 10—15 мінут зьбіралася ўся вёска, калі хацелі сфотографаваць лепшую скаціну, сялібу, ураджай і г. д.

У такіх выпадках здаралася чуць ад сялян (часьцей сына гаспадара), што ён хоча паказаць пшаніцу ці збожжа, *бо ён толькі паляввод.* На полі ён усё ведае, а іншым цікавіцца мала: там справа другіх.

---

[1]) Напр., у 1923 г. уся продукцыя сельскай гаспадаркі разьмяркоўвалася так: насеньне 18 проц., харчаваньне сям'і 50,7 проц., корм скаціны 19,59 проц., продналог 7,8 проц., таварaабмен 3,45 проц.

[2]) Тэмамі былі пытаньні, якія ў тым раёне маглі даваць найбольшую выгаду сялянству (пашырэньне пасеву лубіну, сэрадэлі, палепшаньне пяскоў і сенажацяй, скарыстаньне торфу, барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін і г. д.).

[3]) Старых гаспадароў, гаспадынь і нават моладзі.

І, напраўду, паказвалася пшаніца, што вока цешыцца. Усе ўголас зазначаюць: „Маладзец, Зьмітрок палявод“!

4. Ня меншае значэньне мае і *друкаваная форма „слова“*. Але вымаганьні сялян ад яго вялікія. Сялянская с.-г. літаратура—вельмі адказазная рэч. Яна патрабуе ад сяляніна адначасова і агульнай асьветы, агульнай культуры. (На гэту тэму патрэбна асобная гутарка).

5. Таксама нельга абмінуць значэньне *с.-г. курсаў для сялян* (на працягу 3—5 дзён, 1—3 тыдняў і м-цаў). Гэта адна з найлепшых формаў „*сказа*“, як і ўся праца с.-г. гурткоў, хат-чытальняў, с.-г. выставак, сьвяткаваньня „Дню Ураджаю“ і г. д.

Кожны агроном напэўна мае свае ўласныя формы пропаганды, якімі ён і карыстаецца. Але паказваць іх патрэбна, як фактычны матэр'ял. Ён патрэбен у працы пачынаючага агронома, настаўніка і г. д.

Памятаю, калі на другі год практыканты Бел. Агрон. станцыі прышлі ў вёску Зарэчча 1, то яшчэ на вуліцы сустрэла іх амаль уся моладзь вёскі і зараз-жа стала пералічваць, што ў іх ўсе гаспадары ўжо пасеялі лубін, 7 завялі сэрадэлю, некалькі кармовыя буракі, выку, канюшыну і г. д.

Просты і ўмелы падыход агронома да сяляніна-земляроба заўсёды абуджае яго самадзейнасьць і ўзмацняе творчую думку практыка. Вось чаму вывучэньне сялянскага вопыту, як і сялянскай гаспадаркі—адзін з абавязкаў вучастковага агронома і кожнай дасьледчай станцыі.

С. Т.

---

# Год працы с.-г. часопісі „Плуг“.

За год аб'ём часопісі „Плуг“ (№№ 1—12) складае 574 старонкі, дзе зьмешчана 273 артыкулы. Большасьць выдрукавана матэр'ялаў *аб палявой гаспадарцы* (50 арт.), *далей ідзе жывёлагадоўля* (30 арт.) *і праца сялян-культурнікаў* (26 арт.). Ад 11 да 20 арт. маюць аддзелы *агропропаганды* (19), *с.-г. коопэрацыя* (16), *садоўніцтва* (16), *агульны аддзел* (14) *і барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін* (13). Усе іншыя аддзелы часопісі маюць 11, а то і менш артыкулаў.

Усяго на старонках часопісі выступала 118 аўтараў. Сярод іх было

| | |
|---|---|
| Профэсароў | 9 |
| Навуковых працаўнікоў і агрономаў | 67 |
| Сялян | 8 |
| Зям. працаўнікоў, лесаводаў, вэтэрынараў і інш. | 34 |

Як бачым, пакуль што менш усяго пісалі самі сяляне, хаця пра іх працу і дасягненьні ў гаспадарцы напісана даволі шмат *(26 артыкулаў)*.

Аб масавых чытачох часопісі, водзывах сялян, пашырэньні і значэньні часопісі „Плуг“, як адной з формаў агропропаганды, патрэбна больш поўнае высьвятленьне ў асобным артыкуле. Трэба толькі адзначыць, што першы год працы часопісі, калі с.-г. кніга наогул толькі пачынала пранікаць у вёску і вышукваць сабе там пастаянных чытачоў, з'яўляецца даволі трудным. Шмат і пільнай увагі патрэбна было на зразумелую аформоўку тэм, спосаб іх выкладаньня і г. д. У першы год напэўна нельга было выканаць поўнасьцю і самыя няшырокія мэты, якія ставіла сабе часопісь.

**Рэдакцыя.**

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Наём рабочых у сялянскай гаспадарцы.

Зямельны Кодэкс дазваляе наём парабкоў у гаспадарках пры ўмовах захаваньня ўсіх правіл, устаноўленых для найму сельска-гаспадарчых рабочых.

Між тым афармленьне такога найму і страхаваньне рабочых зьяўляецца вельмі цяжкім для сялянскіх гаспадарак. Затым, гаспадаркі ці стараліся абходзіцца без наёмных рабочых, ці не афармлялі наём, што не забесьпячала парабкоў ад кабалы.

VII Ўсебеларускі Зьезд Саветаў для разьвіцьця сельскай гаспадаркі і больш шырокага скарыстаньня лішкаў рабочай сілы ў вёсцы прызнаў неабходным палягчыць нанімацелю ўмовы найму дадатковай рабочай сілы.

На падставе матэр'ялу Зьезду, Савет Народных Камісараў выдаў пастанову (12 жніўня 1925 г.), а Наркампрацы, Наркамунутр. спраў і Наркам'юст улажылі інструкцыю (21 кастрычніка г.г.) аб найме рабочых сялянскімі гаспадаркамі і разбору спрэчак, якія зьвязаны з наймам.

Цяпер усякая працоўная гаспадарка, у якой члены яе працуюць нараўне з нанятымі рабочымі, можа нанімаць ня больш 2-х рабочых, а калі ў гаспадарцы праводзіцца меліорацыя, то ня больш 3-х рабочых на тэрмін да аднаго году па дамашнім дагаворы. У дагаворы павінна быць паказана, на *якія працы наймаецца рабочы, тэрмін найму, праца ў дзень, вызначэньне платы і тэрмін выплаты.*

Дагавор гэты робіцца ў трох экз. і, пасьля падпісаньня іх, не пазьней двох тыдняў падаецца ў мясцовы сельсавет для рэгістрацыі. Рэгістрацыя робіцца бяз кошту ў працягу аднаго дня. Ніякіх зьмен у дагаворы сельсавет рабіць ня можа. Адзін экз. зарэгістраванага дагавору застаецца ў сельсавеце, а два іншых выдаецца нанімацелю і парабку. Толькі інспэктар працы і профсаюз могуць запатрабаваць зьмены і скасаваньня дагавору, які не адказвае запатрабаваньням закону.

Калі рабочы наймаецца на тэрмін ня больш аднаго тыдню і пры тым ня больш 3-х раз у працягу году ў аднэй і тэй-жа гаспадарцы, то дагавор найму робіцца на слова без рэгістрацыі ў сельсавеце.

Наймацца на с-г. працы ня могуць дзеці маладзей 12 год.

Плата працаўніку ўстанаўляецца згодаю абедзьвюх старон, але не павінна быць ніжэй устаноўленай для данай мясцовасьці найменшай заработнай платы; пры гэтым кошт харчу і жыльля павінен складаць ня больш паловы азначанай платы, а рэшта платы належыць да выдачы рабочаму грашмі.

Адзін дзень у тыдзень нанімацель павінен даць рабочаму на адпачынак.

Харч рабочы мае права атрымоўваць такі, які есьць сям'я нанімацеля. Мясцовыя бальніцы і мэдычныя працаўнікі павінны бяз кошту даваць с.-г. рабочым лекавую дапамогу. Нанімацель у выпадку хваробы парабка павінен адвезьці яго ў бальніцу ці прывезьці фельшара. Калі захварэўшы працаваў у гаспадарцы ня менш 2-х тыдняў, нанімацель павінен карміць яго і выдаваць плату ў працягу 2-тыдняў. Калі-ж

хворы працаваў у гаспадарцы больш месяца, то ён мае права карыстацца харчам і заработкам у працягу аднаго месяца.

Нанімацель можа па важных прычынах адмовіць парабку яшчэ да тэрміну найма. Але сказаць яму аб гэтым ён павінен за два тыдні ці выдаць наперад плату за 2 тыдні, калі гэтага яму ня скажа.

Рабочы пры адходзе ад нанімацеля павінен яго паведаміць аб гэтым за тыдзень. Нанімацель-жа не павінен затрымоўваць грошай, якія належаць рабочаму, бо тады ён можа браць ад яго плату па дзень фактычнага разрахунку.

Усе спрэчкі, якія могуць вынікаць пры найме рабочых у сялянскай гаспадарцы, разглядаюцца прымірыцельнай комісіяй пры Райвыканкоме ці Народным судом.

Заяву аб тым, каб разгледзелі спрэчку ў прымірыцельнай комісіі, можа падаць парабак ці-нанімацель. Заява гэта падаецца ў Райвыканком, які і організуе прымірыцельную комісію са згоды абедзьвюх старон.

У склад прымірыцельнай комісіі ўваходзяць нанімацель і прадстаўнік профсаюзу з рашаючым голасам, а старшынёю яе зьяўляецца сябра выканкому.

Калі прымірыцельная комісія ня можа разьвязаць спрэчкі, то тады справа перадаецца ў Народны суд. Згода-ж, дасягнутая і падпісаная старшынёю комісіі, нанімацелем і парабкам, мае сілу судовага вырашэньня.

Пры адмаўленьні нанімацеля дабраxоць выконваць падпісаную ім умову, Райвыканком па заяве профсаюзу перадае пасьведчаную копію ўмовы ў Народны суд для атрыманьня паперы (ліста) на прымусовае выкананьне згоды.

**Я. Вішнеўскі.**

# Пытаньні і адказы

*(па зямельных справах).*

Пытаньне. Якую зямельную плошчу трэба лічыць уваходзячай у мястэчка, дзе шляхам земляўпарадкаваньня гарадзкое селішча не абмяжована. (Мазырская акрземкомісія).

Адказ 18. Сялібная частка (з находзячыміся на ёй садамі, гародамі і плошчамі агульнага карыстаньня) залюднёных пунктаў, пераведзеных пастановаю ЦВК і СНК у селішчы гарадзкога тыпу, павінна лічыцца зямлёю горада з моманту прыёму спраў адпаведнымі органамі мясцовай гаспадаркі.

Пытаньне. Які орган адводзіць сялібныя вучасткі ў селішчы гарадзкога тыпу і вырашае спрэчкі.

Адказ 19. Сялібныя вучасткі ў селішчы гарадзкога тыпу адводзяцца органамі мясцовай гаспадаркі, а спрэчкі аб карыстаньні зямлёю вырашаюцца народным судом.

Пытаньне. Ці пашыраецца права здачы ў арэнду зямлі на аснове прыметкі к арт. 33 Зям. Код. толькі на перасяленцаў, якія выяжджаюць у другія месцы, ці тым-жа правам карыстаюцца грамадзяне, што перасяляюцца на зямлю запаснага фонду ў парадку земляўпарадкаваньня ў межах таго-ж аб'яднаньня. (Полацкая Акрземкомісія).

Адказ 20. Рассяленцы, якія атрымалі на месцы абжытую зямлю пры земляўпарадкаваньні, карыстаюцца ільготамі, прадугледжанымі арт. 114 і 193 Зям. Код. Правам-жа здаваць сваю зямлю ў арэнду на аснове прыметкі к арт. 33 карыстаюцца толькі грамадзяне, якія выбываюць у другія месцы ў парадку пляновага перасяленьня.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Перадача сялянству лясоў мясцовага значэньня.

Кастрычнікавая Рэволюцыя скасавала прыватную уласнасьць на зямлю, а разам з гэтым і на лясы, якія былі уласнасьцю паноў ці нават сялян. У асноўным законе аб лясох Рэспублікі, які выданы быў у траўні 1918 г. (п. 7-мы) значылася, што з ляснога дзяржаўнага фонду пасьля абсьледваньня могуць выключацца тыя лясы, якія маюць мясцовае с.-г. значэньне. Лясьніцтвы ў большасьці выпадкаў не адводзілі лесасек у лясох сялянскіх, каб ня мець варожых адносін сялян. Але былі выпадкі, асабліва ў 1920 і 21 г. г., калі Жалязком, вырабляючы лесаматэр'ялы для патрэб Рэспублікі, вымагаў адводаў лесасек у сялянскіх лясох. З другога боку няправільна было не адводзіць там дзялянак, калі лес пасьпеваў пад выруб.

Перадача-ж лясоў сялянству пачалася ў РСФСР з 23 году, а ў БССР з 24 г. Перадаюцца сялянству лясы мясцовага значэньня, сялянскія лясныя вучасткі, а часткаю невялікія кавалкі лясоў іншых катэгорый, ня маючыя дзяржаўнага значэньня. У БССР пастанова па гэтым пытаньні была вынесена другой Сэсіей ЦВК VI-га скліканьня (15/VII—24 г.).

Асноўныя палажэньні аб лясох мясцовага значэньня былі праведзены 5—12 арт. арт. Ляснога Кодэксу. Згодна памянёнай пастановы ЦВК, перадача лясоў мясцовага значэньня павінна быць скончана ў працягу 1924-25 г. г.

Мэтамі, пры перадачы лясоў мясцовага значэньня было: а) *узмацаваньне сялянскай гаспадаркі*, б) *дапамога сялянству ў здавальненьні яго патрэб у драўніне бяз усякай цяганіны па лясьніцтвах*, в) *скасаваньне лясной церазпалосіцы, шкоднай як для сельскае, так і для лясной гаспадаркі*, г) *правільнае і поўнае выкарыстаньне гадавога прыросту драўніны*, д) *стварэньне здаровых адносін сялянства да дзяржаўнай лясной гаспадаркі.*

Лясы мясцовага значэньня передаюцца сялянству ў бестэрміновае і бясплатнае карыстаньне. Трэба падкрэсьліць, што лясы мясцовага значэньня не варочаюцца сялянству зноў у прыватную уласнасьць, а перадаюцца толькі ў карыстаньне грамад, таварыстваў і інш. аб'яднаньняў; у склад сяброў гэтых аб'яднаньняў залічаюцца і быўшыя ўладары гэтых лясоў. У выключных здарэньнях магчыма перадача невялікіх лясных плошчаў у карыстаньне паасобных сельскіх гаспадароў.

Уся праца па лясох мясцовага значэньня праводзілася організаванымі комісіямі (у раёнах, акругах і ў цэнтры пры НКЗ). Інструкцыяй ад 6/V—24 г., а таксама і пазьнейшымі распараджэньнямі былі вы-

значаны разьмеры тых плошчаў, якія маглі быць гэтымі комісіямі канчаткова пераданы ў лясы мясцовага значэньня. Комісія пры НКЗ мае права выносіць канчатковае рашэньне аб плошчах усякіх разьмераў; таксама яна разглядае ўсе заявы і скаргі на рашэньне мясцовых комісій.

Ад усёй працы на 15 кастрычніка г.г. маем такія вынікі: усяго на 15/X—25 г. перадана плошча ў 331.000 дзес.; у гэтым ліку быўшых сялянскіх 260.000 дзес. (79 проц.), панскіх 67.000 (20 проц.) і дзяржаўных 4.000 дзес. (1 проц.). Плошча, якую яшчэ належыць перадаць, складае 66.000 дзес.; такім чынам, усяго ў лясы мясцовага значэньня перадаецца 397.000 дзес. ці каля 400.000 дзес. Уся праца па перадачы лясоў мясцовага значэньня ўжо канчаецца. Канчатковы тэрмін перадачы быў да 1 лістапада 25 г.

*Якія лясы атрымалі сяляне і якую будуць мець карысьць?* Пераданыя лясы выглядаюць так: 70 проц. (280.000 дзес.) пераданых лясоў знаходзіцца пад хвойнымі дрэвамі (хвоя і елка) і 30 проц., або 120.000 дзес. пад ліставымі пародамі. З хвойных вучасткаў 35 проц. (98.900 дзес.) маюць лес узросту больш 50 год, у якім можа адводзіць лесасекі, а 65 проц. (182.000 дзес.) гэтай плошчы знаходзіцца пад маладым лесам не пасьпеўшым яшчэ для рубкі. Узрост ліставога лесу сярэдні. Запас драўніны ў пасьпеўшым для вырубаў лесе наогул невялікі, *5-25 куб. саж. на дзес.* Гадавая лесасека на ўсёй плошчы ў 400.000 дзес. пераданых лясоў мясцовага значэньня—*6.600 дзес. з запасам драўніны 75.200 куб. саж. Па сялянскай таксе гэта дасьць блізка 580.000 руб.* Такім чынам, сялянства атрымоўвае магчымасьць здаваляць ад 15 да 20 проц. сваёй патрэбы ў драўніне непасрэдна з лясоў мясцовага значэньня.

*Якія-ж грашовыя затраты павінны нясьці сяляне, атрымаўшы лясы мясцовага значэньня?* Спачатку перадачы для пакрыцьця расходаў па абследаваньню лесу сяляне павінны былі плаціць 40 кап. з кожнай дзес. У красавіку 1925 г. Савет Народных Камісараў пастанавіў звольніць сялянства ад гэтага ўзносу на тых вучастках, на якіх маецца малады лес (хваёвы—да 50 г. і ліставы да 30 г.); каб не затрымоўваць перадачу ў тых выпадках, калі сялянства ня мела магчымасьці ў момант перадачы плаціць грошы, лясьніцтвамі дазвалялася гэту плату расьцягнуць на некалькі месяцаў.

Кіраўніцтва лясамі ўсю працу па лясох мясцовага значэньня праводзіла карыстаючыся з пазыкі НКФ—перш у суме 15.000 руб., а пасьля ў чэрвені 1925 г. яшчэ ў суме 30.000 руб.

### Як весьці гаспадарку ў лясох мясцовага значэньня.

Перш усяго, лясы мясцовага значэньня ў працягу трох год павінны быць лесаўпарадкаваны. Для гэтае мэты на 1925-26 г. уладай ужо асыгнавана 44.000 руб. Лесаўпарадкаваньнем будзе дадзены адказ на тое, *як весьці гаспадарку, колькі і дзе сячы лесу, што рабіць, каб лясную гаспадарку весьці правільна.* Парадак аховы, а таксама і карыстаньня да лесаўпарадкаваньня ў лясох мясцовага значэньня павінны праводзіцца згодна часовых правіл.

Правілы гэтыя складаюцца з трох частак: 1) *асноўныя палажэньні,* 2) *карыстаньне лясамі мясцовага значэньня* і 3) *гаспадараваньне і ахова іх.* У аснове ўсяго самадзейнасьць сялянства; усе галоўныя пытаньні вырашаюцца агульнымі сходамі лесакарыстацеляй. Для непас-

рэднага гаспадараваньня сход выбірае *лесагаспадарчую комісію і ўпоўнаважаных.*

Тым часам, усякія рады і дапамогу па гаспадарцы сялянству маюць даваць працоўнікі тых лясьніцтваў, на тэрыторыі якіх знаходзяцца лясы мясцовага значэньня. Але ў сучасным сваім складзе працоўнікі лясьніцтва будуць дапамагаць сялянству па гаспадарцы ў лясох мясцовага значэньня, пэўна, больш на паперы. Трэба спадзявацца, што жыцьцё падкажа на неабходнасьць выдзеліць спэцыялістых, якія-б толькі ведалі кіраваньнем гаспадаркай у лясох мясцовага значэньня.

II-я сэсія ЦВК 7-га склікаяньня вынесла пастанову, каб: 1) *лясы мясцовага значэньня былі ўпарадкаваны ў працягу 3-х год,* 2) *драўніна з гадавой лесасекі ідзе ў поўнае распараджэньне лесакарыстацеляй, а рэшта, звыш патрэб гаспадаркі кожнага з лесакарыстацеляй, на здавальненьне патрэб школ, на рамонт мастоў і г. д.,* 3) *агульны догляд за гаспадаркай у лясох мясцовага значэньня і правільным карыстаньнем праводзіцца РВК і с. с.,* 4) *плотчы лясоў мясцовага значэньня не павінны абкладацца сельска-гаспадарчым падаткам.*

Бялюнас.

---

# Што рабіць сялянам са сваімі лясамі.

Сяляне Беларусі атрымалі ў гэтым годзе значныя лясныя плошчы як лясы мясцовага значэньня.

Што-ж рабіць сялянам з гэтымі лясамі, як павесьці ў іх гаспадарку, з чаго трэба пачаць працу і г. д. Вось тыя пытаньні, якія трэба вырашыць зараз-жа пасьля атрыманьня лесу кожнаму аб'яднаньню працоўных лесакарыстацеляй.

Бывалі выпадкі, што сяляне пасьля атрыманьня лесу дзялілі яго плошчу па дварох ці па душах, зараз-жа высякалі ўвесь лес і, колькі трэба, кожны вёз к сабе дамоў, а злішак прадавалі суседзям ці каму другому. На высечанай плошчы пасуць скаціну і больш ні аб чым не клапоцяцца. У такім выпадку на месцы лесу зьяўляецца пусташ, няпрыносячая ніякае карысьці ці дрэнны выган. Гэта няправільнае і незаконнае карыстаньне лясамі.

Каб правільна гаспадарыць у сваім лесе, трэба папершае, памятаць, што лес мясцовага значэньня перадаецца сялянам у бестэрміновае карыстаньне, але толькі для таго, каб у гэтым лесе вялася правільная лясная гаспадарка і каб лес абараняўся лесакарыстацелямі. Падругое трэба памятаць, што правільна гаспадарыць у сваім лесе зусім ня цяжка. Для гэтага трэба толькі выбраць добрых пэўных упаўнаважаных, сваіх прадстаўнікоў па гаспадарцы ў лесе і выпаўняць парады таго лясьнічага, якому будзе паручана тэхнічнае кіраваньне працай гэтых упоўнаважаных. І яшчэ трэба памятаць, што пры няправільнай гаспадарцы дзесяціна лесу можа ня даць сялянам ніякага даходу, а пры правільнай гаспадарцы дзесяціна сьпелага лесу можа даць да 90 кубаў добрых і цэнных лесаматэр'ялаў.

Перш усяго лес трэба замацаваць за сабой. Трэба прыняць яго і па паперах (па асобнай умове), і ў натуры. Пасьля гэтага праверыць межы, разчысьціць іх, паставіць памежныя слупы.

Далей упоўнаважаным трэба дастаць Лясны кодэкс БССР, часовыя правілы вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня БССР

і другія законы і інструкцыі па лясной гаспадарцы. Імі трэба кіравацца ў сваёй працы. Вельмі патрэбна чытаць і іншыя кнігі аб лясной гаспадарцы.

Яшчэ неабходна *зрабіць лесаўпарадкаваньне* і злажыць плян гаспадаркі ў лесе. Гэту працу могуць зрабіць толькі лясныя спэцыялістыя. Плян гаспадаркі пакажа, колькі ў год можна сячы лесу, дзе і як сячы і якія другія працы ў лесе трэба спаўняць кожны год. Аб камандыраваньні лясных спэцыялістых і лясных тэхнікаў для лесаўпарадкаваньня і складаньня пляну гаспадаркі, трэба зьвяртацца да лясьніцтваў.

Пасьля гэтага можна ўжо весьці правільную гаспадарку ў сваім лесе. *Правільнае вядзеньне лясной гаспадаркі* складаецца, папершае, з таго, каб кожны год высякалася лесу столькі, колькі паказана ў пляне гаспадаркі, і ў тым месцы, дзе гэта паказана.

Падругое; сячы можна толькі з 1-га верасьня па 1-е траўня. Высечаная дзялянка павінна быць ачышчана ад галінак, сукоў, шчэпак і рознага лому не пазьней, як да 15 траўня. Пні пакідаць ня вышэй 30 см. (6 вярш.) і г. д.

Патрэцяе, павінна быць організавана абарона лесу ад самавольных парубак, ад пажараў, лясных шкоднікаў і неорганізаванага выпасу скаціны. На новых вырубах і ў маладнякох, пакуль яны ня вырастуць вышэй 2,1 мэтра (1 саж.) пасьвіць скаціну нельга.

Пачацьвёртае, трэба клапаціцца, каб лес вырас на высечаных плошчах і на пусташах. Калі лесасека ў свой час не зарастае маладым густым лесам, то неабходна яе засеяць ці засадзіць.

Папятае, неабходна даглядаць за насаджаным лесам: прачышчаць прарэджваць, зьністажаць дзікія травы, высякаць сухастой і хворыя дрэвы, падбіраць валежнік, буралом, ветравал і г, д. Бяз догляду за маладымі дрэўцамі лес будзе расьці памалу, выйдзе дрэнны і ня дасьць таго прыбытку, які можна ад яго атрымаць. Догляд за маладым лесам патрэбен таксама, як і лесаўпарадкаваньне.

Догляд за маладым лесам і лесаразьвядзеньне патрабуюць спэцыяльных ведаў і затым перш, як распачаць гэту працу, трэба параіцца са спэцыялістымі.

Пашостае, трэба па гаспадарцы ў сваім лесе весьці запісы: 1) прылад, 2) продажу драўніны, 3) прыбытку і расходу грошай, 4) лясных злачынстваў.

Калі сяляне ўважліва пазнаёмяцца з пытаньнямі, якія закрануты гэтым артыкуле, то гэта дапаможа ім правільна павесьці гаспадарку сваіх лясох і атрымаць ад іх карысьць.

**Проф. С. П. Мельнік.**

Горкі, с.-г. Акадэмія.



# КООПЭРАЦЫЯ

## Правільны разьлік за малако ў масладзельных заводах (арцелях).

Масладзельныя арцелі яшчэ да рэволюцыі вялі разьлік за малако сваіх сяброў такі: плата вылічвалася па колькасьці дастаўленага малака і па процанту ў ім жыру. Цяпер усе арцелі робяць разьлік толькі па колькасьці дастаўленага малака. Лічу гэта няточным; разьлік па процанту жыру, хоць больш клапатлівы, але затое правільны. Такая форма разрахунку заслугоўвае вялікае ўвагі. Нашы маладыя арцелі вызначаюць плату за літр малака; за вырабленае дрэннае масла атрымоўваюць нізкую цану і адразу маюць убытак; у іх адпадае ахвота далей працаваць і яны зачыняюцца. Пры разьліку за малако на процант жыру ў малаку, заводу лягчэй падлічыць выхад масла і кожны селянін, які здае малако, можа быць упэўненым, што яго тавар аплаціцца. Падругое, пры гэтым малако ўжо ня будзе разбаўленым, якое часта здаюць у заводы. Селянін, які дастаўляе малако, лічыць убытачным аддаваць сваё малако, багатае жырам, па аднолькавай цане з менш жырным малаком, і ён падлівае ваду. Некаторыя робяць гэта так лоўка, што рэдка пападаюцца. Патрэцяе, разьлік малака па якасьці мае вялікае значэньне пры палепшаньні малочных кароў. Гэта пытаньне цяпер зьяўляецца наступным заданьнем кожнага сельскага гаспадара; трэба зьвяртаць увагу ня толькі на велічыню ўдою, але і на жырнасьць малака.

Разьлічвацца па процанту жыру і колькасьці малака, як гэта робіцца ў арцелях Прыбалтыцкага краю, вельмі лёгка і зразумела кожнаму хоць крыху пісьменнаму. Пры кожным масладзельным заводзе ёсьць прылады для вызначэньня жыру ў малаку. Для больш правільнай ацэнкі кожны завод павінен вызначаць жыр у малаку ня менш чатырох-пяці раз у месяц. Вядома, чым часьцей рабіць аналіз, тым больш правільнай будзе ацэнка малака. Сярэдні процант жыру амаль ва ўсіх заводах вызначаюць так: суму процантаў жыру дзеляць на лік аналізаў і атрыманую суму лічаць сярэднім процантам. Вызначэньне сярэдняга процанту жыру ў малаку за месяц мае вялікае значэньне, ад чаго залежыць і правільная расплата за малако.

Для таго, каб атрымаць верную сярэднюю пробу сутачнага ўдою, трэба браць яе з усіх трох удояў. Калі будзе дастаўляцца ранешні, дняўны і вячэрні ўдоі паасобку, то трэба браць пробу кожнага ўдою разьмерна колькасьці малака кожнага ўдою. Удоі розьняцца адзін ад другога процантаў да 40, а жыр да 2 проц. Затым, каб атрымаць правільную сярэднюю пробу, ні ў якім разе ня можна браць аднолькавую частку з кожнага ўдою. Напрыклад, дастаўлена на завод ранешняга

ўдою 50 фун. з 2,80% жыру, дняўнога—35 фун. з 4,20% жыру і вячэрняга—30 фун. з 4,80% жыру. Калі цяпер для складаньня пробы сутачнага ўдою ўзяць роўныя часткі з усіх трох удояў, то жыру будзе 3,93%, а калі ўзяць часткі разьмерна колькасьці малака кожнага ўдою, то жыру будзе 3,75%. Знача, розьніца на 0,18%. Для больш простага вылічэньня колькі трэба браць ад кожнага ўдою для сярэдняй пробы, можна карыстацца мянзуркай,*) якая ёсьць на кожным масладзельным заводзе. Бяруць 10 куб. см. з кожных 10 фун. малака ўдою (у нашым прыкладзе 50+35+30=115 куб. см.). Усе тры часткі трэба зьмяшаць і зрабіць у мешаніне вызначэньне жыру і ўдзельнай вагі. Цяпер мы можам зрабіць вызначэньне сярэдняга процанту жыру ў сутачным удоі. Вызначым далей сярэдні процант жыру ў малаку за месяц.

Перш скажам аб тым, ці часта трэба рабіць вызначэньне жыру. Частае вызначэньне жыру не заўсёды магчыма. Летам працаўнікі бываюць заняты на заводах, а, каб акуратна рабіць вызначэньне жыру, для гэтага трэба шмат часу, акрамя таго, для гэтага яшчэ патрэбны рэактывы, якія цяпер дорага каштуюць. Каб не рабіць частых вызначэньняў жыру і малако захаваць салодкім да спробы, падыходзяць да гэтага парознаму.

Трымаюць малако салодкім ня больш 10 дзён, прыбавіўшы 1-2 каплі фармаліну ці крыху двухромава-кіслага каля. Ад гэтых рэактываў малако можа захоўвацца зусім сьвежым да спробы; гэта дае магчымасьць пакідаць пробы ад кожнага дня і гэтым дасягнуць самых верных вынікаў у ацэнцы. Пры гэтым, пробы трэба браць кожны дзень, але зноў разьмерна колькасьці дастаўленага малака ўдзень, прыбавіўшы к пробе адну каплю фармаліну. Малако трэба памяшаць, уліць у бутэльку і трымаць у халодным памяшканьні да вызначэньня жыру. Ад такой малай дабаўкі фармаліну малако не пераменіцца.

Каб атрымаць сярэднюю пробу за месяц, трэба суму дастаўленага малака паміж аналізамі перамножыць на % жыру, г. зн. усю суму здадзенага малака за месяц зрабіць, як-бы з 1% жыру. Далей суму аднапроцантнага малака падзяліць на суму дастаўленага малака; атрыманая лічба і будзе правільны сярэдні процант жыру. Для зразумеласьці паказваю прыклад. Селянін здаў у кастрычніку 509 ф. малака. Вызначэньне жыру зроблена 5 раз. Трэба вылічыць сярэдні процант жыру за м-ц.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| з 1 па 6 | кастрычніка | здадзена | 140 фун. | з 4% | жыру |
| з 7 „ 12 | „ | „ | 127 „ | з 4,20% | „ |
| з 13 „ 18 | „ | „ | 92 „ | з 4,50% | „ |
| з 19 „ 24 | „ | „ | 86 „ | з 4,80% | „ |
| з 25 „ 31 | „ | „ | 64 „ | з 4,90% | „ |
| | Усяго . . . | | 509 фун. | з 22,40% | жыру. |

Колькасьць аднапроцантнага малака:

1) $140 \times 4 = 560$
2) $127 \times 4{,}20 = 533$
3) $92 \times 4{,}50 = 414$
4) $86 \times 4{,}80 = 412$
5) $64 \times 4{,}90 = 313$,

Усяго . . . 2232 ф.

*) Высокая шклянка з рыскамі для вызначэньня аб'ёму.

Падзяліўшы суму жыру на лік аналізаў (22,40:5) атрымаем сярэдні процант жыру, або (4,48%). Падзяліўшы-ж суму аднапроцантнага малака на суму сапраўды здадзенага, атрымаем правільны сярэдні процант жыру (4,38%).

Знача, у даным прыкладзе селяніну пераплацілі-б за адну дзесятую проценту жыру.

Можна яшчэ другім спосабам вылічыць сярэдні процант жыру за месяц. Для гэтага трэба вылічыць, колькі фунтаў чыстага жыру атрымана з малака паміж аналізамі (спробнымі днямі), потым суму жыру за ўвесь месяц падзяліць на суму малака за месяц і лічбу памножыць на 100; напрыклад:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 140 фун. | малака | з 4% | жыру | дадуць | 5,60 | фун. жыру |
| 127 „ | „ | з 4,20% | „ | „ | 3,33 | „ „ |
| 92 „ | „ | з 4,50% | „ | „ | 4,14 | „ „ |
| 86 „ | „ | з 4,80% | „ | „ | 4,12 | „ „ |
| 64 „ | „ | з 4,90% | „ | „ | 3,13 | „ „ |
| Усяго 509 фун. | | | | | 22,32 | фун. жыру. |

Падзяліўшы 22,32 ф. на 509 атрымаем 0,0438 фун. Гэта колькасьць жыру, якая ёсьць у адным фунце малака, а ў 100 фун. будзе 4,38 фун., або 4,38%.

Як бачым, вынікі тыя-ж, што і ў першым выпадку. Ведаючы верны сярэдні процант жыру за месяц у малаку кожнага сябра таварыства паасобна, усю суму ад прадажу малочных продуктаў за месяц дзеляць паміж сябрамі арцелі разьмерна колькасьці малака і % у ім жыру.

Напрыклад, трэба падзяліць 23 руб. паміж трымя сябрамі па колькасьці малака і % ў ім жыру

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Першы здаў | 509 ф. | малака | з 4,38%=2229 | аднапроцантнага малака |
| Другі „ | 400 ф. | „ | з 4,70%=1880 | „ „ |
| Трэці „ | 1000 ф. | „ | з 3,40%=3400 | „ „ |
| Усяго . . | 1909 ф. | малака | 7509 | аднапроцантнага малака. |

Перш колькасьць малака кожнага сябра прыводзяць к аднапроцантнаму, потым суму атрыманых грошай дзеляць на суму аднапроцантнага малака (23 р.: 7509=0,3062 к.).

Такім чынам, даведваюцца цану аднаго фунта аднапроцантнага малака, а потым цану аднаго фунта аднапроцантнага малака памнажаюць на суму аднапроцантнага малака кожнага сябра. У прыкладзе атрымаем:

0,3062 к. × 2229=6 руб. 82 кап.
0,3062 к. × 1880=5 руб. 75 кап.
0,3062 к. × 3400=10 руб. 41 кап.

*Лутц.*



# КРАЯЗНАЎСТВА

## Значэньне рыбнае прамысловасьці ў харчаваньні насельніцтва Беларусі.

Рыбная гаспадарка дае насельніцтву бялкі і жыры, якія маюць вялікае значэньне ў харчаваньні кожнага чалавека. Такім-жа мэтам служыць і жывёлагадоўля.

Адгэтуль значэньне рыбнай гаспадаркі ў народным харчаваньні трэба ацэньваць так, як мы цэнім і жывёлагадоўлю, г. зн. па колькасьці і каштоўнасьці тых продуктаў, якія дае рыбная гаспадарка.

Насельніцтва Беларусі заўсёды атрымоўвала мяса менш нормы і ў гэтым кірунку была ззаду ня толькі заходня-эўропэйскіх краін, але і жывёлаводных раёнаў СССР.

Па вызначэньні Наркамздрава БССР норма мяса для розных катэгорый гарадзкога насельніцтва хістаецца ад 200 да 300 гр. у дзень.

Калі ўзяць найменшую норму (200 гр.) у дзень на аднаго чалавека, то мяснае харчаваньне гарадзкога насельніцтва ў 1922-25 г. мела такі выгляд:

| Гады. | Лік гарадзкога насельніцтва. | Неабходна мяса па найменшай норме ў пудох. | |
|---|---|---|---|
| | | На аднаго чалавека. | Усяго. |
| 1922-23 | 406.072 | 4,56 | 1.851.688 |
| 1923-24 | 589.181 | 4,57 | 2.692.557 |
| 1924-25 | 610.084 | 4,56 | 2.791.883 |

У сапраўднасьці-ж спажытак маса насельніцтвам гарадоў Беларусі прадстаўляў такі малюнак:

| Гады. | Скарыстана мяса ў пудох. | | Недастача мяса да найменшай нормы на аднаго чалавека ў пудох. |
|---|---|---|---|
| | Усім насельніцтвам. | На аднаго чалавека. | |
| 1922-23 | 423.369 | 1,04 | 3,52 |
| 1923-24 | 771.700 | 1,31 | 3,26 |
| 1924-25 | 803.900 | 1,33 | 3,23 |

З паданых табліц відаць, што павялічэньне мясной нормы ў працягу 3-х папярэдніх год ішло ня так хутка. На большае павялічэньне

ня можна разьлічваць і ў будучыне, бо пераход ад трохпольля на шматпольле патрабуе ўзмацненьня і сялянскай гаспадаркі, чаму маладняка на ўбой пойдзе менш.

Вось чаму павялічэньнем запасаў бялка ў харчаваньні насельніцтва і зьяўляецца рыба.

Паказваю расход рыбных продуктаў (сьвежай і соленай рыбы) на гарадзкіх рынках за тры гады.

| Назва зваротаў. | 1922-23 г. | | | 1923-24 г. | | | 1924-25 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мясцов. рыбы ў тыс. пуд. | Прывозн. рыбы ў тыс. пуд. | Усяго ў тыс. пуд. | Мясцов. рыбы ў тыс. пуд. | Прывозн. рыбы ў тыс. пуд. | Усяго ў тыс. пуд. | Мясцов. рыбы ў тыс. пуд. | Прывозн. рыбы ў тыс. пуд. | Усяго ў тыс. пуд. |
| Запас рыбы . . | 12 | 760 | 772 | 38 | 652 | 69 | 50 | 785 | 835 |
| Пераадпраўлена ў сельск. мясцов. | — | 158 | 158 | — | 133 | 133 | — | 91 | 91 |
| Прадана гарадзк. насельніцтву . | 12 | 602 | 614 | 38 | 519 | 557 | :0 | 694 | 744 |
| Прыпадае ў сярэднім на аднаго чалавека . . . | — | — | 1,51 | — | — | 0 94 | — | — | 1,22 |

Значэньне рыбы ў харчаваньні гарадзкога насельніцтва ў параўнаньні з мясам можна бачыць з наступнай табліцы:

| Гады. | Гадавое спажываньне на аднаго чалавека ў пуд. | | Харчавая каштоўнасьць спажытай рыбы ў параўнаньні з мясам ў %% |
|---|---|---|---|
| | Мяса. | Рыбы. | |
| 1922-23 | 1,04 | 1,51 | 58 |
| 1923-24 | 1,31 | 0,94 | 26 |
| 1924-25 | 1,33 | 1,22 | 45 |

З 694 т. пуд. рыбных продуктаў, якія атрыманы ў 1924-25 г. на гарадзкіх рынках, скарыстана гарадзкім насельніцтвам каля 300 т. п. сьвежай рыбы з дастаўкай на 1.200.000 руб. (па 4 руб. за пуд.). Калі-б сьвежую рыбу, якая ўвезена ў Беларусь з другіх рэспублік Саюзу, мы мелі-б у сваёй гаспадарцы, то, наадварот, насельніцтва атрымала-б заработак ў 540 т. руб. за лоўлю рыбы, пашырэньне прамысловасьці і перавоз рыбы ад месца лова да бліжэйшых гарадоў і станцый, а дзяржава мела-б арэнднай платы 400 т. руб.

Маючы шмат вазёр і рэчак (плошча вазёр 64.736 дзес.) і добрыя ўмовы для разьвіцьця рыбнай гаспадаркі, Беларусь можа даць на рынкі шмат сьвежай рыбы, не карыстаючыся прывазной.

Дзеля гэтага неабходна палепшыць рыбную прамысловасьць н рыбалоўных угодзьдзях, што дасьць каля 150.000 пуд. рыбы ў год.

Наркамзем БССР ужо пачаў арганізоўваць правільную рыбную гаспадарку:

1) абараняюцца рыбалоўныя ўгодзьдзі ад самавольнага лову;
2) распачата высьледаваньне вадаёмаў;

3) робіцца штучнае разьвядзеньне цэннай рыбы ў спэцыяльных рыбаводных заводах;

4) адбудоўваюцца разбураныя ў часе вайны і рэволюцыі рыбныя гаспадаркі і абсталёўваюцца новыя вадаёмы рыбаводзтва;

5) даецца крэдыт сялянам на капаньне сажалак у сваіх гаспадарках.

На возеры Лукамлі зроблены рыбаводны завод для штучнага разьвядзеньня *чудзкага* сіга на 15 мільён. ікрынак.

Для разьвядзеньня галіцыйскага карпа, які зьяўляецца для рыбнай гаспадаркі найбольш даходнай рыбай, адбудоўваецца Жыткавіцкая рыбная гаспадарка, якая складаецца з 56 сажалак агульнай плошчаю 1.000 дзес.

Сяляне, якія жадаюць зрабіць у сваёй гаспадарцы сажалкі і разводзіць цэнную рыбу там або ў вазёрах, якія ёсьць на іх зямлі, могуць атрымаць ужо пасадачны матэр'ял.

**Тарасаў.**

---

# Жыткавіцкая рыбная гаспадарка.

Жыткавіцкая рыбная гаспадарка (Людзяневіцкая лясная дача, Жыткавіцкага раёну, Мазырскай акругі) знаходзіцца на адлегласьці 6 кіл. ад Палескай чыгункі і 20 кіл. ад м-ка і ст. Жыткавічы.



Возера Лукамль.

Па велічыні яна зьяўляецца трэцяй гаспадаркай у сьвеце і была вельмі добра абсталявана. У склад гэтай гаспадаркі ўваходзіць 56 сажалак з агульнай плошчай 1000 дзес. Усе сажалкі дзеляцца на наступныя групы:

1. *Нерастныя*, у якія ў палове траўня пускаюць рыбу для нераставаньня. Такіх сажалак 24, агульная плошча іх 5 дзес.

2. *Вырастныя*—адна сажалка 1-га парадку, плошчаю 30 дзес., у якую пускаюць малую рыбку праз 2 тыдні пасьля выхаду яе з ікры і 1 сажалка 2-га парадку (плошчаю 80 дзес.), у якую праз 3—4 тыдні пускаюць малую рыбку з сажалкі 1-га парадку.

3. *Выкормныя*—у іх пускаюць рыбу на другім годзе жыцьця. Такіх сажалак 14 з плошчаю 880 дзес.

4. *Зімавальныя*—у якіх рыба зімуе. Такіх сажалак 18 з плошчаю 5 дзес.

Гэта гаспадарка збудавана быўш. памешчыкам Агаркавым для разьвядзеньня галіцыйскага карпа. Яна пачала працаваць з вясны 1915 г.

Абсталяваньне сажалак і пабудова неабходных будынкаў каштавалі 150.000 руб. Вясною 1916 г. было прадана 2.000 пуд. карпаў за 20.000 руб., а ў 1917 годзе было прадана 5.450 пуд. рыбы за 56.000 руб.

Гадавы прырост рыбнага мяса ўсяе гаспадаркі вызначаўся на 12.000 пуд., а агульны прыбытак—у 120.000 руб., чысты-ж прыбытак мог быць 100.000 руб.

У 1918 годзе ўсе сажалкі былі разбураны і ў такім стане заставаліся да вясны бягучага году.

З 1 траўня г. г. Наркамзем пачаў адбудоўваць гэту гаспадарку і цяпер ужо адбудованы *дзьве нерастных сажалкі*, плошчаю 3 дзес., 1 *вырастная* сажалка, плошчаю 30 дзес., адна выкармная сажалка, плошчаю 80 дзес., і два зімавальнікі плошчаю 1 дзес.

5 чэрвеня ў нерастныя сажалкі былі пушчаны 3 вытворнікі галіцыйскага карпа, ад якіх маецца маладняк. У працягу лета ён быў у вырастной сажалцы 1-га парадку. У другой палове кастрычніка (16—30) маладняк пушчан у зімавальнік.

Ня гледзячы на позны нераст і халоднае лета, вышла 110.000 шт. карпаў-сёлетак. *Іх вага 5.500 кілёгр.*, або *50 грам. у сярэднім на штуку.*

Найменшая продукцыйнасьць гэтай гаспадаркі бывае 183 кілёгр. з дзес., кошт якіх раўняецца 73 руб. Прырост пушчаных у гэтым годзе карпаў к вясьне 1926 г. будзе каштаваць 12.000 руб.

Лесасека, на якой знаходзяцца сажалкі, магла-б даць ня больш 1.500 руб. гадавога прыбытку. Агульны-ж гадавы прыбытак ад рыбнай гаспадаркі пры сучасных нізкіх ценах на рыбу можа быць 73.000 руб., а нормальна і да 100.000 руб. З гэтай сумы каля 15.000 руб. атрымае насельніцтва за працу на рыбалоўных угодзьдзях.

Жыткавіцкая рыбная гаспадарка паказвае, як можна здабываць найбольшыя выгады ад дрэнных у сельскай гаспадарцы зямельных угодзьдзяў.

**Тарасаў.**

---

# 50-годзьдзе дзейнасьці (70 год жыцьця) І. Ў. Мічурына і мэтоды яго досьледу.

25 кастрычніка г. г. культурныя садаводы сьвяткавалі 50-я ўгодкі дзейнасьці вядомага пладавода-арыгінатара І. У Мічурына.

Сваю працу ён правёў у варунках вельмі няспрыяючых садоўніцтву, у Казлоўскім павеце, Тамбоўскай губ., дзе трапляюцца зімы з маразамі вышэй 25°.

Агульныя варункі жыцьця Мічурына былі цяжкія. Па атрыманьні сярэдн й адукацыі ён ня меў сродкаў, каб вучыцца ў вышэйшай школе, і павінен быў заняць пасаду ў канторы на чыгунцы і на астатнія грошы, якія зьберагаў, пачаў зьбіраць колекцыі пладовых расьлін. Цягу да садоўніцтва ён атрымаў ад бацькоў і дзядоў. У Калускай губ. вядомы сарты ігруш, выведзеныя прадзедам І. Ў. пад назвай „мічурынскіх". Мэтай Івана Ўладзімеравіча было атрымаць новыя лепшыя сарты пладовых, гародных і с-г. расьлін дзеля няспрыяючага клімату паўночнай і сярэдняй Расіі. Гэтай працы ён аддаваўся з вялікім захапленьнем. Спачатку Мічурын арандаваў кавалак зямлі каля гораду (Казлова) і працаваў, як мага, у вольны па-заслужбовы час. Потым ён перабраўся за 5-6 кілёмэтраў ад гораду, куды і перацягнуў на сваім карку ўсе свае расьліны. Пачаўшы патроху зарабляць шляхам продажу сваіх расьлін, Мічурын кінуў пасаду і ахвяраваў сваю працу выключна справе садоўніцтва.

Спачатку ён запісваў шмат сартоў з розных краін і лічыў, што шляхам *акліматызацыі* лепшых замежных пладовых сартоў, прышчэпленых на трывалых дзічках, магчыма будзе атрымоўваць шмат цікавага і карыснага. Гэта раілі вучоныя садаводы, як Грэль і інш.

Трэба было згубіць шмат працы і часу на спрабаваньне і досьледы, каб упэўніцца ў памылковасьці прынцыпаў акліматызацыі.

Згодна парады доктара Бэлтінга, Мічурын перашоў да вывядзеньня мясцовых новых гатункаў пладовых расьлін з насеньня лепшых пладоў, а потым дасьледаваў, што толькі апылкаваньнем расьлін мясцовых сартоў з лепшымі замежнымі, магчыма будзе атрымоўваць тое, што стварыла вялікі посьпех дасягненьням Мічурына, вядомага добра і ў Амэрыцы.

У сваёй аўтобіографіі („Садавод" 1914 г. № 6) ён пісаў: „Крок за крокам на працягу шэрагу год я старанна вывучаў на практычных, featuresрознастайна абстаўленых досьледах справу *гібрыдзізацыі*, прымаючы пад увагу тыя тэорытычныя веды, якія мне давялося ў тую часіну атрымаць. Праз мае рукі прашлі дзесяткі тысяч досьледаў. Я выгадаў шмат новых адмен пладовых расьлін, ад каторых атрымана некалькі сотняў новых сартоў, ужытых дзеля культуры ў нашых садох, пры чым шмат з іх па сваёй якасьці мала чым уступаюць лепшым замежным сартом".

Проф. М. І. Вавілаў лічыць, што дасягненьні Мічурына, як і вядомага амэрыканскага пладавода Бэрбэнка, у напрамку вывядзеньня новых сартоў і нават парод дасягнуты шляхам зьбіраньня са ўсіх канцоў зямлі расьліных формаў, у шырокім прыстасаваньні апылкаваньня іх паміж сабой, у апылкаваньні дзікіх відаў з культурнымі, у скарыстаньні сеянцаў дзеля вывядзеньня новых сартоў, прыстасоўваючы, падругое, і апылкаваньне далёкага крыжаваньня.

У артыкуле аб мэтодах сваёй працы Мічурын, папершае, падкрэсьлівае, што становішча з нашымі раёнымі асортымэнтамі вельмі дрэннае. Нашы, усім вядомыя сарты, памалу выраджаюцца. Дасьледаваньні Горацкай садовай станцыі ў межах усходняй Беларусі адзначылі гэткую-ж самую зьяву. Старыя, усім вядомыя сарты, як цітаўка, баравінка, апорт зусім гінуць на 30—40 годзе. Зусім трывалых зімовых сартоў, ня лічучы адмен антонаўкі, мы амаль ня маем.

Пачынаць уводзіць замежныя сарты ў школках і распаўсюджваць паміж сялянствам мы лічым няпэўным мерапрыемствам і шкодным для

гандлёвага садоўніцтва. Застаецца адзін толькі шлях: досьледы па атрыманьні новых сартоў пладовых дрэў з насеньня шляхам скрыжаваньня.

„Адзіны пэўны спосаб у гэтай справе магчыма лічыць толькі вывядзеньне з насеньня кожнай мясцовасьці сваіх новых сартоў пладовых расьлін, пры чым дзеля падвышэньня іх адносна якасьці неабходна ўжываць *гібрыдзізацыю*, гэта значыць, неабходна скрыжаваць старыя трывалыя мясцовыя сарты з лепшымі замежнымі сартамі.“

У гэтай прынцыпова-навуковай формуле Мічурына галоўнае— яго практычныя прыёмы.

Але апошнія вельмі цікавы, самабытны і нават выдатны. Трэба адзначыць, што Мічурын—вялікі вынаходца, каторы дзеля сваіх досьледаў змайстраваў шмат прылад. Гібрыдзізацыю Мічурын лічыць падтрэбным весьці паміж адменамі найбольш далёкіх у адносінах роднасьці. Атрыманыя гэткім чынам гібрыды лепш прыстасоўваюцца да варункаў існаваньня ў новых мясцовасьцях. Прымячаецца аднаўленьне сілы ў атрыманым патомстве.

З вялікай нецярплівасьцю арыгінатар чакае атрыманьня першых пладоў ад гібрыда. Каб скараціць тэрмін чаканьня, Мічурын бярэ зрэз (чаранок) з найбольш ураджайных сартоў старых дрэў і прышчэплівае да ніжэйшай часткі галін маладога гібрыднага дрэва. Гэтай маніпуляцыяй выклікаецца хуткі наступ пладнасьці гібрыда*). Гэткім чынам падкрэсьліваецца ўплыў падвоя на прывой. Наогул, трэба падкрэсьліць, што досьледы Мічурына, як і нашага вядомага талянтнага садавода-селяніна Я. К. Мароза, сьцьвярджаюць, што існуе, як пэўны факт, уплыў падвоя на прывой і наадварот.

Атрыманьне Марозам новага сорту салодкай антонаўкі, аб чым намі было далажана на сходзе „Навуковага Таварыства“ пры Акадэміі, магчыма было толькі ў тым выпадку, калі падвой салодкай белі зрабіў-бы моцны ўплыў на запрышчэпленыя зрэзы антонаўкі.

Атрымоўваючы гібрыд, мы павінны ведаць, што на новую расьліну, прыстасоўваючуюся да новых варункаў, мае значны ўплыў якасьць глебы, моцнае ўгнаеньне, паветра і г. д. Пладовае дрэва на працягу першых 10—15 гадоў толькі формуецца і ад культыватара вымагаецца дапамагчы накіраваць фармоўку ў найлепшым напрамку. Вось чаму Мічурын, як і вядомы эўропэйскі арыгінатар Ван-Люнс (XIX ст.) уважліва адносіцца да сваіх выхаванцаў у першыя годы іх росту. Апроч моцнага ўгнаеньня, перасадкі расьлін і г. д. Мічурын карыстаецца мэтадам „па-за кармавой пажывы“. Пажыўны раствор цукру ў вадзе ўводзіцца пры дапамозе шпрыца пад луб маладой расьліны.

У тэхніку скрыжаваньня Ів. Ул. унёс шмат каштоўных прыёмаў. Напрыклад, кветкі дзеля апылкаваньня бяруцца найбліжэйшыя да штамбу, бо тут прыток сокаў мацнейшы і плады можна лепш уберагчы ад дзейнасьці вятроў і градабіцьця. Пылок захоўваецца з гадзі за 1 дзень і г. д.

Скрыжаваньне з посьпехам вядзецца паміж бліжэйшымі адменамі аднаго віда, але вельмі цяжка ўдаецца апылкаваньне паміж рознастайнымі відамі і родамі. Дзеля палягчэньня ў гэтым напрамку, Мічурын вядзе скрыжаваньне шляхам *вэгэтацыйнага набліжэньня*. Спачатку, напрыклад, зрэз ігрушы прышчэпліваецца да яблыні, а потым вядзецца

*) Па тлумачэньні Івана Ўладзімеравіча, мы маем тут справу з ужываньнем „мэтода ментараў.“

скрыжаваньне ў межах адной расьліны. Такім чынам, атрыманы відавыя гібрыдныя расьліны паміж абрыкосам і сьлівай, чарэшні вішняй, лазалістнай ігрушай і культурнымі мясцовымі сартамі і г. д.

Са шмат сартоў Мічурынскіх яблынь, ігруш на дасьледчую садовую станцыю Беларускай с-г. Акадэміі (у Горках) атрымана да 10 сартоў, каторыя на працягу бліжэйшых 5—10 год павінны даць пэўныя вынікі. У варунках Казлова гэта ўсё зімовыя вельмі каштоўныя сарты. Асабліва дзеля экономікі сялянскага садоўніцтва, калі добра пойдзе Мічурынскі асортымэнт, вялікую вартасьць павінны выявіць зімовыя сарты ігруш, каторыя ўздымуць прыбытак ад гэктару саду (згодна погляду Мічурына) да 4000 і нават больш рублёў.

Наогул, жыцьцё і праца Івана Ўладзімеравіча працякалі ў вельмі няспрыяючых умовах. Царскі ўрад ня лічыў патрэбным прывабіць да сябе гэтага талентнага гаратніка — стварыцеля новых цэнных сартоў пладовых расьлін. Ніякай матэр'яльнай дапамогі ад старой улады Мічурын не атрымоўваў. Ня раз яго цягнулі ў Амэрыку. Згодна пастановы Саўнаркому РСФСР дасьледчы пладовы выхавальнік Мічурына быў узяты пад ахову савецкай улады (у 1923 г.) І. Мічурын на старасьць забясьпечан пэнсіяй, пэрсоналям, опэрацыйнымі сродкамі і г. д. З гэтага году рэпродукцыйная, школка пачынае распаўсюджваць яго лепшыя сарты яблынь, ігруш і г. д.

Дзеля скарыстаньня ўсіх досьледаў Мічурына на Беларусі, мы-б лічылі патрэбным з наступнай вясны 1925 г. камандыраваць і нашага супрацоўніка-садавода ў Казлоў. Вельмі важнай справай зьяўляецца сталае, падрабязнае апісаньне ўсіх яго дасягненьняў.

Трэба спадзявацца і пажадаць, каб юбіляр яшчэ шмат год жыў і працаваў на карысьць Савецкага Саюзу і ўсяго гарапашнага сялянства.

(Горкі, с-г. Акадэмія). **Проф. М. Бурштэйн.**

# С-Г. ХРОНІКА.

*Контроль-асыстэнцкія прылады.* Для пашырэньня контроль-асыстэнцкай працы ў жывёлагадоўлі Беларусі, Наркамземам куплена ў Нямеччыне (Бэрлін) 30 контроль-асыстэнцкіх прылад (кошт аднаго комплекту 95 руб. 60 коп.). Усе прылады перададзены ў акругі дзеля карыстаньня імі на мясцох організуючыміся контрольнымі таварыствамі.

*Маслабойкі.* Дзеля дапамогі маладым, толькі што з'організаваўшымся малочным арцелям, якія ня маюць яшчэ поўнага абсталяваньня, Наркамземам БССР перададзена ў акругі 10 маслабоек. (Кошт аднае маслабойкі 150 руб.). Арцель можа карыстацца маслабойкаю бяз кошту на працягу аднаго году, пакуль ня зможа набыць сваё абсталяваньне. Далей маслабойка перадаецца новай арцелі.

*Раённыя агрономы-зоотэхнікі.* З 1-га кастрычніка г. г. на 10 акруг Наркамземам запрашаецца на працу 30 агрономаў-зоотэхнікаў. Яны будуць лічыцца памоцнікамі вучастковых агрономаў у тых раёнах, якія маюць больш выяўлены жывёлаводны ўхіл сельскай гаспадаркі. Раён дзейнасьці зоотэхніка ў гэтым годзе будзе ахопліваць два або тры адміністрацыйныя раёны.

*Бэконны завод у БССР.* Госплян СССР зацьвердзіў водпуск 300.000 руб. для Беларусі на заснаваньне бэконнага заводу.

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

# Зьмест № I—II часопісі „Плуг“

*Тупяневіч* (№ 4). Як захаваць вільгаць глебы—(№ 4). Сялянскі і заняты папар—*С. Скандракоў* (№ 5). Чысты раньні папар у параўнаньні з позным сялянскім—*А. Дземідовіч* (№ 5). Догляд за бульбаю пасьля пасадкі—*Сьц. Тупяневіч* (№ 5). Як сеяць лён—*А. Савельлеў* (№ 5). Грэчка—*А. Казлоўскі* (№ 5). Карысная сувязь бабовых расьлін з гузачковымі бактэрыямі—*Д. Пракапенка* (№ 5). Выбар вучасткаў чырвонае канюшыны на насеньне—*А. К. Энгельгардт* (№ 6). Як выраблять канюшынішча—*А. Берзін* (№ 6). Палепшаны выраб познага сялянскага папару—*М. Лайкоў* (№ 6). Новы шасьціпалёвы севазварот—*М. Лайкоў* (№ 6). Значэньне палявога травасеву на Беларусі—*Н. Міханоўская* (№ 6). Працы пры скарыстаньні балота—*Г. Пятроўскі* (№ 6). Чым замяніць папар—*Сьц. Тупяневіч* (№ 7). Выраб поля перад севам жыта —*Сьц. Туркін* (№ 7). Сэлекцыя, ці адбор і яе роля ў барацьбе з грыбнымі хваробамі расьлін—*М. Шалупенка* (№ 7). Калі і як прыбіраць лён—*А. Савельлеў* (№ 7). Балота—наша багацьце—*Г. Шасьцітка* (№ 7). К засеву зімовага збожжа—Агрон. *Энгельгардт* (№ 8). Прыборка і хаваньне корняплодаў—*А. Савельлеў* (№ 8). Капаньне бульбы і хаваньне яе зімою—*С. Тупяневіч* (№ 8). Як атрымаць добрае валакно лёну —*А. Савельлеў* (№ 9). Як павялічыць ураджай бульбы—Агрон. *Б. Бабіцкі* (№ 9). Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожа—*Г. Рэго* (№ 9).

### Садоўніцтва.

Што трэба рабіць зімою ў садзе—*К. Х.* (№ 1). Аб садох на вёсцы—*У. Адамёнак* (№ 2). Як падняць садоўніцтва Беларусі—*М. Бурштэйн* (№ 3). Як зьнішчыць чарвёй на садзе—*І. Нейман* (№ 3). Трывалыя і даходныя гатункі яблын па Віцебскай і Магілеўскай акругах —*Ф. Старавойтава* (№ 4). Рыхтуйцеся да закладкі садоў—*М. Бурштэйн* (№ 5). Чарговая праца ў садзе—*М. Б.* (№ 6). Вачкаваньне пладовых дрэў—*М. Бурштэйн* (№ 7). Нашы лепшыя летнія сарты яблык і ігруш—*М. Бурштэйн* (№ 8). Аб зборы насеньня яблын і ігруш —*Р. Гуржы* (№ 8). Нашы дасягненьні ў садоўніцтве—*М. І. Бурштэйн* (№ 9). Як узгадаваць пладовыя дрэвы ў сваёй гаспадарцы—*А. Карлсон* (№ 9). Нашы лепшыя асеньнія сарты яблык—*М. Бурштэйн* (№ 10—11). Падрыхтоўка насеньня пладовых дрэў к пасеву—*Р. Гуржы* (№ 10—11).

### Гародніцтва.

Як вырасьціць капусту—*У. Казюка* (№ 4). Сеў гуркоў—*І. Пушкароў* (№ 4). Город—*К. Х* (№ 3).

### Пчалярства.

Гутарка па пчалярству—*Фэдарака* (№ 1). Што дае чалавеку пчала—*Я. Струкоўскі* (№ 1). Зімоўка пчол—*С. С.* (№ 2). Што рабіць пчаляру ў лютым месяцы—*І. П. Фэдарака* (№ 2). Пчолы вясною—*С. С.* (№ 4). Як выводзіць пчаліныя маткі—*М. Найдзенаў* (№ 4). Раеньне пчол—*І. Фэдарака* (№ 6). Аб штучным раеньні пчол—*М. Найдзенаў* (№ 7). Гнілец і яго лячэньне—*Фэдарака* (№ 8). Падрыхтоўка пчол к зіме—*І. Фэдарака* (№ 10—11).

### Барацьба са шкоднікамі с.-г. расьлін.

Галаўня ці сажа на збожжы і барацьба з ёю—*М. Медзіш* (№ 3). Кіла капусты—*М. Медзіш* (№ 3). Барацьба з палявымі мышамі—*Е. Яцэнткоўская* (№ 4). Шкоднікі саду—*К. Хабэнка* (№ 5). Баярышніца

і златагузка—*К. Хабэнка* (№ 5). Ліставая блыха яблыны, або мёдавік —*К. Хабэнка* (№ 5). Зьнішчайце гародную блыху—*Бранцаў* (№ 5). Хваробы і лячэньне пладовых дрэў—*І. Крупень* (№ 6). Белыя каласы ў жыце і шкоднікі поля—Проф. *П. Салаўёў* (№ 7). Шкоднікі поля восеньню—*А. Берзін* (№ 8). Мокрая гніль бульбы—*Дзянісаў* (№ 8). Капусная кіла і барацьба з ёю—*Я. Мароз* (№ 10—11).

### Жывёлагадоўля.

Племянныя выхавальнікі сьвіней—*Цімашкоў* (№ 1). Жарабеньне ацёл—*Дыяконенка* (№ 1). Чаму патрэбен догляд за цялятамі—*Ластоўскі* (№ 1). Харчаваньне сьвіней—*Цімашкоў* (№ 1). Ня трымайце цалят пад каровамі—*Х. Хатэнка* (№ 1). Наша жывёлагадоўля—*П. Ластоўскі* (№ 2). Як выкарміць сьвіньню—*Цімашкоў* (№ 2). Уплыў паветра на здароўе і продукцыйнасьць жывёлы—І. *Н. Атабякянц* (№ 2). Догляд птушак—*Л. Чарткоў* (№ 2). Паказальнае кармленьне кароў—*П. Ластоўскі* (№ 2). Злучка і падбор коняй—*Дыяконенка* (№ 3). Мясасальны і сальны выкарм сьвіней—*Цімашкоў* (№ 3). Дасягненьні амэрыканцаў у малочнай жывёлагадоўлі—*А. Паноў* (№ 3). Які конь патрэбен нашаму гаспадару—Райагроном *Сяргейчык* (№ 4). Як адвучыць карову, каб яна сябе ня выдойвала—*С. Журык* (№ 4). Падкорм скаціны вясною—*С. Журык* (№ 4). Правілы даеньня кароў—Агр. *Цімашкоў* (№ 4). Як гадаваць цялят вясной і летам—*С. Журык* (№ 5). Гадоўля гусей на Беларусі—*К. Іосялевіч* (№ 5). Падкорм скаціны летам —*С. Журык* (№ 6). Як гадаваць жарабят—*В. Свіршчэўскі* (№ 7). Гадоўля парасят—*С. Журык* (№ 8). Якое малако лічыцца дрэнным—Вэтэрынар *Агапітаў* (№ 8). Аб жывёлагадоўлі на Беларусі—Агрон. *Ластоўскі* (№ 9). Хлеў для жывёлы—фабрыка гною—*П. Рагавы* (№ 10—11). Заводзкая скаціна Бутырскага хутару—*Хвалей* (№ 10—11). Мясны ці бэконны выкарм сьвіней і яго выгады—*С. Сапрыкіна* (№ 10—11).

### Вэтэрынарыя.

Ненормальнасьці і асложненьні родаў у жывёлы—*Дыяконенка* (№ 1). Шаленства—*І. Н. Серада* (№ 1). Вэтэрынарыя ў пытаньнях і адказах *М. Іоффе* (№ 1). Хваробы пасьля ацёлу ці жарабеньня—*Дыяконенка* (№ 2). Крупчакі ці фіноз сьвіней—*Серпоў* (№ 2). Колікі і першая дапамога жывёле—*А. Агапітаў* (№ 2). Глістаная хвароба авец —*Серпаў* (№ 3). Мор на сьвіньні *І. Н. Серада* (№ 3). Як трэба захоўваць гаспадарку і жывёлу ад заразьлівых хвароб—*І. Н. Серада* (№ 4). Як ратаваць уздутую жывёлу—*І. Н. Серада* (№ 5). Вэтэрынарыя—*І. Н. Серада* (№ 6). Што такое дэзынфэкцыя, для чаго і як яна робіцца *І. Серада* (№ 7). Насацізна ў коняй—*Ів. Серада* (№ 8). Золзы ў каня *Ів. Серада* (№ 10—11).

### С.-г. коопэрацыя.

О низовой с.-х. кооперации в Белоруссии—*А. Рыбаков* (№ 2). Беліцкая малочная арцель імя Леніна—*В. Навумаў* (№ 2). Значэньне с.-г. машын і прыладаў—Проф. *Ю. Я. Вейс* (№ 3). С.-г. крэдыт у вясеньні час—*Е. Трахімаў* (№ 3). Задачы пачатковай с.-г. коопэрацыі вясною—*А. Рыбакоў* (№ 3). Шкодныя нахілы нізавой с.-г. коопэрацыі —*А. Рыбакоў* (№ 4). Збыт яек—*С. Чыжэўскі* (№ 5). Да выяўленьня крэдытных патрэб сялянскай гаспадаркі—*Е. Трахімаў* (№ 5). Зварот грошай ў сялянскай гаспадарцы—*Сякера* (№ 6). Аб вырабе сьметанковага масла—*К. Іоселевіч* (№ 6). Аб коопэрацыйным скарыстаньні

машын—Проф. *Ю. Я. Вейс* (№ 7). Організуйце саюзы пладаводаў—*М. Калер* (№ 8). Аб сыраварэньні—*В. Свірчэўскі* (№ 8). С.-г. крэдыт у змаганьні за ўраджай—*Е. Трахімаў* (№ 9). Працы Цэнтраземскладу—*Бахір* (№ 9). Праца Зембінскага с.-г. крэдытнага таварыства—*П. Захарыч* (№ 9). Дзейнасьць Цэнтральнага Дзяржаўнага с.-г, складу за 1924-25 г. і плян працы на 1925-26 г.—*Бахір* (№ 10—11).

### Земляўпарадкаваньне.

Каму патрэбна зямельная рэгістрацыя—*П. К.* (№ 1). Найбольш разумныя формы землякарыстаньня—*Жылінскі* (№ 2). Поменьше ломки сельского хозяйства при землеустройстве—*П. Ревинский* (№ 3). Новый Земельный Кодекс—*Е. Вишневский* (№ 3). Аб зямельнай нястачы на Беларусі—*П. К.* (№ 5). Вопросы и ответы—*Е. Вишневский* (№№ 5 і 6). Крестьянский двор—*яго-жа* (№ 6). Разделы крестьянских хозяйств—*яго-жа* (№ 7 і 8). Арэнда зямлі—*яго-жа* (№ 10—11).

### Лясная гаспадарка.

Об организации „Общества друзей леса“—*Скоморохов* (№ 1). О кредитовании населения лесом—*Я. Седашев* (№ 1). Как крестьянину добывать топливо в безлесном районе—*Федорако* (№ 2). Зьнішчэньне чаразпалесіцы—*Я. Троська* (№ 3). Аб пашы ў лесе—*К. Іваноў* (№ 4). Пажары ў лесе—*і. Фэдарака* (№ 5). Лясныя пажары—*С. П. Мельнік* (№ 6). Догляд за лесам і для чаго ён патрэбен—Лесавод *Фэдарака* (№ 7). Аб зьбіраньні насеньня лясных дрэў—Проф. *С. П. Мельнік* (№ 8). Як скарыстаць дрэнныя вучасткі поля *В. Пашын* (№ 10—11).

### Праца сялян-культурнікаў.

Як сяляне в. Квасынічы (Случчына) завялі шматпольле—*Т. Бародзіч* (№ 2). Якое шматпольле завёў селянін М. Т. Адзярыха—*Т. Бародзіч* (№ 3). Аб садовай гаспадарцы Качаноўскага—*Л. Калер* (№ 3). Як Ст. Кузьміцкі атрымаў 2000 пуд. бульбы з дзесяціны—Сел. *С. Кузьміцкі* (№ 4). Што дало шматпольле Хому Зеляпугу—*М. Лайкоў* (№ 4). Прысёлак Станіслававa—*С. Т.* (№ 4). Якое шматпольле завялі ў сябе Валакалацкія сяляне—*Ф. Плятнер* (№ 5). Аб культурна-паказальных гаспадарках—*М. Лайкоў* (№ 5). Культурныя мерапрыемствы вёскі Засялечы—*П. Сяргейчык* (№ 5). Як колёнія Напраснаўка з'організавала машыннае таварыства—*Б. Гурэвіч* (№ 5). Аб працы селяніна-дасьледчыка Язэпа Мароза—*М. Лайкоў* (№ 6). Як сяляне вёскі Прысынак сеюць лубін у аржоньні—*П. Трус* (№ 3). Дасягненьні селяніна-культурніка Пётры Бернгарда—*М. Лайкоў* (№ 7). Культурная гаспадарка Язэпа Шкадарэвіча — *Дземідовіч* (№ 8). Што робіць у сваёй гаспадарцы селянін Пятрок Трапашка—*С. Т.* (№ 8). Дзьве вёскі—*С. Т.* (№ 8). Перадавы Беларус—*М. Лайкоў* (№ 9). Апавяданьне старога селяніна з-па-над Сожу аб сваёй гаспадарцы—*Вітаўскі* (№ 9). Гаспадарка селяніна Сяргея Мукамолава—*Сьц. Кот* (№ 9). Гаспадарка селяніна Янкі Шоцкага—Райагр. *П. Сяргейчык* (№ 9). Гаспадарка селяніна Цімоха Савельева—*А. Дземідовіч* (№ 9). Як гаспадары сяла Бракава пачалі весьці гаспадарку па новаму—*М. Тарасенка* (№ 10—11). Даходнасьць бульбы ў сельскай гаспадарцы—*Пётра з Пустога Поля* (№ 10—11). Чаму я сею лубін—*яго-жа* (№ 10—11). Палепшаная трохпалёўка Сьцяпана Мінакова—*Т. Плятнер* (№ 10—11). Культурная гаспадарка Віктара Каток—*Х. Холад* (№ 10—11).

